Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 37 (4786) 19 верасня 2014 г.

## ПункціраМ

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Уладзіміра Мяньшова з 75-годдзем. «Вашы дасягненні як выдатнага акцёра, рэжысёра і сцэнарыста сталі неад'емнай часткай савецкай культуры, — гаворыцца ў віншаванні. — У Беларусі вас асабліва цэняць за прынцыповую пазіцыю ў пытаннях духоўнасці кінамастацтва, якая служыць арыенцірам для падрастаючых пакаленняў гледачоў і маладых артыстаў».

✔ Дні культуры Беларусі праходзяць у Літве. Яны пачаліся ў Вільнюсе з прэзентацыі беларускай выстаўкі мастакоў Парыжскай школы, дзе прадстаўлена 69 жывапісных, графічных і скульптурных работ сусветна вядомых майстроў. Наступнае мерапрыемства — свята беларускай песні ў Шаўляі, у якім бяруць удзел аматарскія ансамблі беларускай дыяспары з Літвы і прафесійныя калектывы з Беларусі.

✔ У Мінску пачаліся тыдні Германіі. Іх праграма адрасавана ўсім, хто цікавіцца сучаснай нямецкай культурай і мовай. Пазнаёміцца з краінай дапамогуць фільмы і музыка, тэатр і літаратура, фотавыстаўка. У мерапрыемствах актыўна ўдзельнічаюць школьнікі, студэнты, вучоныя.

✔ У Мінску, у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, адкрылася выстаўка ўкраінскага скульптара Аляксея Лявонава «З мірам і любоўю», якая будзе працаваць да канца снежня. Экспазіцыя прадстаўляе постаці найвялікшых мысляроў: Майсея, Хрыста, Канфуцыя. Скульптурныя выявы ўжо ацанілі жыхары Магілёва, Жодзіна, Барысава, Гомеля, Ліды, Брэста і Нясвіжа.

✔ На базе навучальных устаноў сталіцы ў панядзелак пачнецца заключны этап рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагагічных работнікаў «Настаўнік года Беларусі — 2014». У ім возьмуць удзел 49 педагогаў, якія сталі пераможцамі ў абласцях і г. Мінску. Суперфінал адбудзецца 26 верасня.

✔ Вялікая прэм'ера мастацкага фільма «Белыя росы. Вяртанне» пройдзе ў Мінску 13 кастрычніка. Новая карціна з'яўляецца працягам адной з самых вядомых работ «Беларусьфільма» — слыннай кінакамедыі «Белыя Росы». Рэжысёр — Аляксандра Бутар, сцэнарысты — Аляксей Дудараў, Аляксандра Бутар і Юлія Гірэль. Пасля доўгага творчага перапынку ў карціне зняўся народны артыст РСФСР Мікалай Караченцаў.

✔ Алеся Какошнікава прадставіць Беларусь на конкурсе «Місіс Еўропа — 2014», які пройдзе ў Балгарыі з 27 кастрычніка па 1 лістапада. 36-гадовая бізнес-лэдзі скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Сёння яе ведаюць як аўтара і кіраўніка інтэрнэт-праекта Свята.by і арганізатара маштабных гарадскіх мерапрыемстваў.

✔ Сядзібу пушчанца сярэдзіны XIX стагоддзя ўзновяць у Белавежскай пушчы. Новы турыстычны аб'ект стварaецца на месцы былой сядзібы ва ўрочышчы Перароў. У нядзелю першых наведвальнікаў прывітае Музей народнага побыту і старадаўніх тэхналогій, дзе будуць прадстаўлены ўнікальныя прадметы з хатняга ўжытку пушчанцаў.






Фота Кастуся Дробава

# Наперад у мінулае, назад у будучыню

**Сёння Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы афіцыйна адзначае 70-годдзе. Да свята прымеркавана адкрыццё выстаўкі «Майго жыцця бяссмертны цень». Дзякуючы куратару і аўтару навуковай канцэпцыі выстаўкі Галіне Воранавай «ЛіМ» атрымаў магчымасць загадзя пазнаёміцца з экспазіцыяй і распавесці вам пра самае цікавае.**

Пачнём з таго, што выстаўка складаецца з дзвюх канцэптуальных частак: адна ўяўляе сабой «рэінкарнацыю» самай першай экспазіцыі, што была адкрыта ў верасні 1945 года; другую складаюць найноўшыя знаходкі і набыткі музея. Сюды ж далучаюцца мастацкія творы, праз якія мы можам пазнаёміцца з пераасэнсаваннем асобы і творчасці Янкі Купалы ў XXI стагоддзі. Так, наведнік выстаўкі апынаецца адразу ў двух часавых вымярэннях.

У рэтраспектыўнай частцы можна ўбачыць самыя першыя фота Янкі Купалы, якія збірала яшчэ Уладзіслава Францаўна, жонка паэта. У 1943 годзе яна пісала, што мае ўжо каля 50 здымкаў, якія ёй перадавалі і прыватныя асобы, і карэспандэнты розных выданняў. Добрыя адносіны ва Уладзіславы Францаўны былі з карэспандэнтамі ТАСС. Дзякуючы аднаму з іх у музейныя архівы трапіў добравядомы здымак Купалы і Коласа 1936 года. Вы ўбачыце яго ў экспазіцыі: фота захавалася на адмысловым газетным бланку, з рэдакцыйнымі пазнакамі, з якіх найбольшую ўвагу прыцягвае «тэрмін прыдатнасці» фота — яго мусілі спісаць (чытайце: знішчыць) 1 студзеня 1937 года.

Тут жа вы знойдзеце кнігі, якія музею перадала камісія па пахаванні, г. зн. яны былі з Купалам у апошнія дні яго жыцця. Ёсць і іншыя выданні, з аўтографамі паэта, і асабліва каштоўныя выданні, якія Купала падпісаў і падарыў Валерыю Брусаву ў 1914 годзе.

Канечне, на выстаўцы ёсць асабістыя рэчы Янкі Купалы. «Кожны прадмет адразу станавіўся музейнай каштоўнасцю, — зазначыла куратар выстаўкі спадарыня Галіна. — У адным з лістоў Уладзіслава Францаўна пісала, што нельга стварыць тую экспазіцыю, якую хацелася б, бо засталося вельмі мала рэчаў: дом Купалы на Кастрычніцкай, 10 згарэў, а з ім — многія рэчы паэта, багацейшая бібліятэка і архіў. Цяжка ўявіць, як на гэтай глебе мог узнікнуць такі працавіты і багаты музей, які маем сёння».

Сярод вынесеных з папялішча рэчаў — «вясёлы» гальштук Купалы, сатканы на манер пояса. Як кажа спадарыня Галіна, падобных гальштукаў у паэта было нямала.

Важная частка рэтраспектыўнай часткі экспазіцыі — мастацкія работы А. Волкава, А. Тычыны, Д. Красільнікава, І. Ахрэмчыка, В. Ціхановіча, скульптурны партрэт Янкі Купалы работы А. Глебава, а таксама знакамітая карціна Зянона Паўлоўскага 1945 года «Янка Купала і Якуб Колас гуляюць у шахматы».

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶

# Наперад у мінулае, назад у будучыню

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Своеасаблівым пераходам ад мінулага да сучаснасці стала невялікая фотавыстава «Збіральнікі і захавальнікі», якая прадстаўляе колішніх і сучаснага кіраўнікоў Купалаўскага музея: першага дырэктара Уладзіславу Луцэвіч, Уладзіміра Юрэвіча, Жанну Дапкюнас, Янку Шарахоўскага і Іосіфа Жыдовіча, Сяргея Вечара, Аляксандра Есакова, Алеся Бажко, Аляксея Кулакоўскага і цяперашняга дырэктара Алену Ляшковіч.

Што ж размешчана ў «сучаснай» частцы экспазіцыі?

— Мастацкія работы паказваюць сённяшні вобраз Купалы. Ён становіцца сімвалам беларускай паэзіі, беларускай нацыянальнай ментальнасці. Калі раней мастакі адлюстроўвалі канкрэтныя сцэны з твораў, то цяпер яны перайшлі на іншы ўзровень успрыняцця, алегарычны, — тлумачыць спадарыня Галіна. — Работы самыя розныя: карціна па матывах твораў паэта «На Купалле» Віктара Барабанцава, аўталітаграфія Рыгора Сітніцы «К лепшай долі з вялікай надзеяй» (адна з першых мастацкіх работ, дзе Купала быццам бы пераходзіць са свету рэальнага ў свет вобразаў, сімвалаў; гэта этапны для беларускага мастацтва твор). Таксама — выдатныя працы Міхаіла Басалыгі і Арлена Кашкурэвіча.

Да мастацкай часткі адносіцца і графічная работа Міхаіла Карпука «Дубы», набытая для музея Міністэрствам культуры Беларусі ў 2012 годзе.

У асобнай вітрыне дэманструецца падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — першае выданне п'есы «Раскіданае гняздо» (Вільня, 1919), а таксама галоўная знаходка 2012 года: кнігі з дарчымі надпісамі, перададзеныя Купалам у 1935 годзе Аляксею Новікаву-Прыбою, — «Песня будаўніцтву» і «Стихи и поэмы». Пра існаванне аўтографаў даведаліся толькі тады, калі ў Мінск прыехала дачка Новікава-Прыбоя Ірына, якая згадала, што калісьці бацька сапраўды атрымаў дар ад Купалы. Яна абяцалася пашукаць кнігі ў хатніх архівах.

Яшчэ адзін каштоўны падарунак зрабіў музею латышскі майстар-медальер Яніс Трупуліс, які арганізоўваў тут персанальную выстаўку: цэлую калекцыю медалёў, прысвечаную беларусам, у тым ліку Янку Купалу.

**P. S.** Калі будзеце аглядаць выстаўку, адарвіцеся ад экспанатаў, як бы цяжка гэта ні было, і звярніце ўвагу на вокны. Вас чакае сюрпрыз.

**Наста ГРЫШЧУК**

**Алена ЛЯШКОВІЧ, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы:**



— Нам, сённяшнім «купалаўцам», вельмі пашанцавала: на працягу 70 гадоў у музеі працавалі прафесіяналы, якія сапраўды любілі сваю працу, любілі творчасць Янкі Купалы і сам музей. Гэта адчуваецца па тагачасных экспазіцыях. І мне вельмі прыемна, што сёння калектыў музея — адзін з перадавых у нашай справе. «Купалаўцы» — вельмі крэатыўныя людзі, якія не лічацца са сваім асабістым часам. Сярод нас — шмат маладзі, выпускнікоў філфака БДУ і Універсітэта культуры і мастацтваў. Усе — высокакваліфікаваныя спецыялісты, якія працуюць вельмі шчыра, аддана. І таму нашыя мерапрыемствы цікавыя. Гэта не толькі мая думка — так кажуць і госці, і сябры музея.

Вялікая роля ўскладаецца на культурна-адукацыйны аддзел, які ўзначальвае Вольга Пархімовіч, бо менавіта ён працуе з наведвальнікамі. Хочацца назваць некалькі імёнаў: Юля Сагановіч, Анжаліка Пешкур, Алёна Галоўчыц. Справа ў тым, што асноўныя нашы наведвальнікі — дзеці, а з імі працаваць удвая цяжэй, бо зацікавіць вельмі складана. Але нашым дзяўчатам гэта ўдаецца.

Многія сталыя супрацоўнікі, што аддалі музею шмат гадоў, цяпер знаходзяцца на адпачынку, але балючага пераломy ў жыцці музея не было. Яны выгадавалі сабе змену, і замена адбылася мякка і павольна.

Сёння ў складзе музея чатыры філіялы: Вязынка, Яхімоўшчына, Акопы і Ляўкі. Штат складае 56 чалавек, сярод якіх і навуковыя супрацоўнікі, і адміністрацыя, і тэхнічныя службы. Кіраўнікі філіялаў прыедуць сёння на свята, прычым усе яны будуць узнагароджаныя Падзякай Міністра культуры. У Ляўках, напрыклад, працуе Тамара Мікалаеўна Крына — працуе ўжо 38 гадоў! Тамара Мікалаеўна будзе ўзнагароджаная Ганаровым знакам Міністэрства культуры «За ўклад у развіццё культуры Беларусі».

*Прэміі*

# Адзначыць лепшых

Вось ужо чвэрць стагоддзя, раз на два гады, да Свята працы 1 Мая прысуджаюцца прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. За гэты час лаўрэатамі сталі 3 прафесійныя і 22 аматарскія калектывы мастацкай творчасці, 163 дзеячы культуры і мастацтва, журналісты. Напрыканцы жніўня прынята рашэнне аб умовах прысуджэння прэмій за 2015 год.

Вызначана, што будзе пяць прэмій у галіне літаратуры і мастацтва: за творы прозы, паэзіі і драматургіі; за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць; за работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва; за творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва; за лепшы твор аб прафсаюзах (літаратурны, музычны, канцэртны, тэатральны, кінамастацкі, жывапісны, скульптурны і інш.).

— Прадугледжана па адной прэміі за актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці (сярод кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, прафсаюзных і ведамасных устаноў культуры, старшынь прафсаюзных арганізацый) і за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці, — распавёў намеснік старшыні камісіі па прэміях ФПБ у галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці Аляксандр Суша. — Будзе таксама прэмія і ў галіне журналістыкі.

На саісканне прэміі ФПБ прымаюцца творы і работы, апублікаваныя, публічна паказаныя ці выкананыя за апошнія чатыры гады, але не пазней як за 6 месяцаў да ўстаноўленага тэрміну вылучэння. Не могуць быць прадстаўлены работы, якія адначасова прэтэндуюць на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, міжнародных прэмій ці прэмій іншых дзяржаў, або тыя, якія ўжо атрымалі падобныя ўзнагароды.

Колькасць саіскальнікаў у складзе калектыву аўтараў не павінна перавышаць 4 чалавекі.

Вылучэнне работ і твораў праводзіцца на сходах працоўных калектываў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, пасяджэннях прэзідыумаў раённых, абласных і рэспубліканскіх камітэтаў і аб'яднанняў прафсаюзаў, калегій, прэзідыумаў і сакратарыятаў праўленняў органаў культуры, творчых саюзаў, міністэрстваў і ведамстваў. Прэтэндэнты абавязкова павінны быць членамі прафсаюза. Улічваецца і іх удзел у рабоце сваёй арганізацыі, выбарных органаў прафсаюзаў, мерапрыемствах, якія праводзяцца прафсаюзамі, і г. д.

Памер прэміі будзе ўстаноўлены згодна з рашэннем аб іх прысуджэнні ў красавіку будучага года.

*Дакументы і матэрыялы прымаюцца да 10 снежня 2014 года Камісіяй па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў (220126, г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 21, пакой 915).*

*Тэлефон для даведак: 203-95-83.*

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Тэле-ЛіМ*

# Пад «подых струн»

Тэлеканал «Беларусь 3» прадстаўляе новы праект — музычна-пазнавальную праграму ў фармаце «жывы гук», якая пазнаёміць гледачоў з беларускімі бардамі.

Творчыя сустрэчы будзе праводзіць акцёр і выканаўца аўтарскай песні Анатоль Длускі. «Подых струн» стартуе ў ранішнім эфіры ў нядзелю. Выпускі абяцаюць быць вельмі цікавымі: у праекце возьме ўдзел мноства таленавітых музыкантаў, а гледачы змогуць атрымаць асалоду ад музыкі і спеваў сучасных беларускіх бардаў.

Адметна, што ўдзельнічаць у абмеркаванні праграмы можа кожны глядач ці інтэрнэт-карыстальнік. Свае пытанні і пажаданні можна пакінуць на афіцыйным сайце тэлеканала www.3belarus.by або даслаць смс-паведамленне падчас эфіру. Госці праграмы дапамогуць знайсці адказы, раскажуць шмат цікавых фактаў пра гісторыю бардаўскай песні і сучасных выканаўцаў, адметнасці гэтага жанру.

Пасля выхаду праграмы ў эфір на працягу тыдня на сайце будзе праходзіць інтэрнэт-галасаванне на лепшую кампазіцыю. У завяршальным выпуску прагучаць песні, якія набралі найбольшую колькасць галасоў. Лепшыя барды і самы актыўны ўдзельнік інтэрнэт-абмеркавання атрымаюць падарункі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*Стасункі*

# Творцы дамовіліся пра супрацоўніцтва

**Беларускія пісьменнікі заўжды былі ў добрых адносінах з казахскімі калегамі. Апошнія гады не выключэнне. Гэта відаць па плённай рабоце ў развіцці стасункаў, якая праводзіцца апошнім часам у Саюзе пісьменнікаў Беларусі.**

Шырокі розгалас выклікалі сустрэчы ў Доме літаратара з перакладчыкам рамана «Шлях Абая» М. Ауэзава Анатолем Кімам, творчы вечар Алжаса Сулейменава, іншыя праекты. Шмат па прапагандзе казахскай літаратуры ў Беларусі робіць і дзяржаўная літаратурна-мастацкая перыёдыка, дзе сузаснавальнікам выступае Саюз пісьменнікаў Беларусі.

У межах Дня беларускага пісьменства была падпісана дамова пра супрацоўніцтва паміж Інстытутам літаратуры і мастацтва імя М. Ауэзава Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Казахстан і Выдавецкім домам «Звязда». Галоўныя задачы, якія вызначаны гэтым пагадненнем, — правядзенне сумесных навуковых даследаванняў у галіне беларуска-казахскіх літаратурных сувязей, арганізацыя навуковых канферэнцый, семінараў, выданне навукова-папулярных і навуковых прац.

З казахскіх праектаў Выдавецкага дома "Звязда" можна вылучыць толькі што ажыццёўленае выданне кнігі вучонага-літаратуразнаўцы Немата Келімбетава «Не хачу губляць надзею» і адну з кніг серыі «Сугучча сэрцаў», прысвечаную сучаснай казахскай літаратуры.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Прэм'еры Вялікага

Прэс-канферэнцыя, прысвечаная новаму, 82-му, тэатральнаму сезону, адбылася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Паводле генеральнага дырэктара Уладзіміра Грыдзюшкі, гледачы змогуць пабачыць 8 новых пастановак.

Новы сезон 7 верасня адкрыла опера Пятра Чайкоўскага «Пікавая дама». Прэм'ера аднаактовага балета Ігара Стравінскага «Жарптушка» ў пастаноўцы народнага артыста Расіі Андрыса Ліепы адбудзецца тут з 3 па 5 кастрычніка. Двухактовы балет «Лаўрэнсія» Аляксандра Крэйна (балетмайстар-пастаноўшчык — народная артыстка Грузіі ды Расіі Ніна Ананіяшвілі) упершыню будзе паказаны ў Вялікім 1 і 2 лістапада. А ў Камернай зале імя Л. П. Александроўскай увосень можна будзе паглядзець аднаактовыя оперы «Служанка-пані» Джавані Батыста Пергалезі ды «Капельмайстар» Даменіка Чымарозы.

Оперу Руджэра Леанкавала «Паяцы» (рэжысёр-пастаноўшчык, аўтар сцэнаграфіі ды светлавой партытуры — Міхаіл Панджавідзэ, дырыжор-пастаноўшчык — Віктар Пласкіна) айчынны глядач пабачыць 10 — 11 снежня, а «Царскую нявесту» Мікалая Рымскага-Корсакава, таксама ў пастаноўцы М. Панджавідзэ, — з 19 па 20 сакавіка. Над балетам «Бахчысарайскі фантан» паводле аднайменнай паэмы А. Пушкіна (музыка Барыса Асаф'ева) працуе народны артыст Беларусі Юрый Траян. Завершыць сезон 11 — 12 чэрвеня вернутая ў рэпертуар опера «Кармэн» Жоржа Бізэ. З яе пачынаўся калісь «жыццяпіс» Вялікага тэатра, на рахунку якога сёння 72 пастаноўкі.

**Яна ЯВІЧ**



*Дзмітрый Астанькоўіч (злева) і Зіновій Прыгодзіч.*

# Песня гучыць!

**Больш як 230 нашых суайчыннікаў з 13 краін прыехалі ў Мінск на Другі фестываль мастацтваў беларусаў свету. Сярод гасцей-землякоў быў і старшыня Беларускага культурнага цэнтра «Радзіма» са сталіцы Казахстана, кампазітар Дзмітрый Астанькові, які пагадзіўся даць «ЛіМу» невялікае інтэрв'ю.**

**— Дзмітрый Валер'евіч, адкуль вашы карані?**

— З вёскі Коўшава, што на Мсціслаўшчыне. Там жылі мае дзед і бабуля, якія мелі шляхетнае паходжанне. Мусіць, за гэта і пацярпелі. У 1930-я гады дзеда адправілі на будаўніцтва Беламорканала. А бабуля, каб уратаваць сям'ю, з'ехала спачатку ва Узбекістан, а пасля ў казахскі горад Чымкент, дзе выйшла замуж у другі раз. Нарадзіўся мой бацька, а пасля і я. Усё свядомае жыццё мы пражылі ў Казахстане. І да сённяшняга дня ў Беларусі не былі.

**— Адкуль ведаеце беларускую мову?**

— Дзякуючы сустрэчам і размовам з беларусамі, якія жывуць у Астане. Вельмі многае мне даў у гэтым сэнсе Віталь Астанковіч з Магілёва. Бачыце, у нас амаль аднолькавыя прозвішчы. Пазнаёміліся па інтэрнэце. Віталь — падпалкоўнік міліцыі, вялікі прыхільнік роднага слова, актыўны ўдзельнік мастацкай самадзейнасці. Адшукаўшы мяне ў сецiве і дазнаўшыся, што я кампазітар, прапанаваў творчае супрацоўніцтва. Дасылае мне вершы беларускіх паэтаў — Рыгора Барадуліна, Алеся Бадака, Івана Ждановіча. Вось такім чынам і ваш верш «Дзве крыніцы» трапіў да мяне, і я напісаў песню, якую выконвалі тут, у Мінску, на гала-канцэрце. Мне вельмі прыемна, што яна была цёпла сустрэта шматлікімі слухачамі.

**— Дзякую. Мне таксама прыемна. Дзмітрый Валер'евіч, а як вы прыйшлі ў музыку?**

— У Чымкенце скончыў музычную школу і музычны каледж, паступіў у Алмаацінскую кансерваторыю, а дыплом атрымліваў ужо ў Акадэміі музыкі ў Астане. Член Саюза кампазітараў Казахстана і Саюза кампазітараў Беларусі. Напісаў больш як 20 песень на словы беларускіх аўтараў. Яны часта гучаць не толькі на вечарынах нашай суполкі, але і ў розных аўдыторыях Астаны і іншых гарадоў. Казахі вельмі хораша прымаюць беларускія песні.

**— А ці пішаце вы казахскія песні?**

— Пішу. Што цікава, мае калегі не раз гаварылі, што ў маіх казахскіх песнях выразна чуюцца беларускія матывы. Гены ёсць гены. Дарэчы, працаваць з беларускімі тэкстамі намнога лягчэй, мелодыі льюцца з душы нібы самі сабой.

**— Вы працуеце толькі ў песенным жанры?**

— Не, у мяне шмат сімфанічных, камерна-інструментальных твораў. Проста песня — мой самы любімы жанр.

**— Раскажыце пра дзейнасць культурнага цэнтра, які ўзначальваеце.**

— «Радзіма» аб'ядноўвае больш як сто актывістаў. А ўсяго ў Астане каля 2000 беларусаў. Мы часта збіраемся разам, ладзім творчыя вечарыны, канцэрты, круглыя сталы, святы. Харавы калектыў суполкі «Вясёлка» вельмі папулярны ў Астане. Мы вельмі ўдзячныя супрацоўнікам беларускага пасольства, якія аказваюць нам актыўную дапамогу.

**— А якім вы ўбачылі Мінск?**

— Вельмі спадабаўся! Чысты, прыгожы, прасторны, зялёны горад. Еўрапейскі! Ды і вёскі, у якіх мы пабывалі, пакінулі самыя лепшыя ўражанні. Радасць і шчасце перапаўняюць маё сэрца ад таго, што людзі на роднай зямлі жывуць добра. Гэтымі пачуццямі я буду цяпер актыўна дзяліцца і з членамі нашай суполкі, і з усімі жыхарамі Казахстана.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**

*Конкурсы*

# Беларусь у аб'ектыве

Новы рэспубліканскі творчы фотаконкурс «Фота Беларусі» будзе праходзіць у нашай краіне. Узяць удзел у ім змогуць як прафесіяналы, так і аматары.

Арганізатарамі творчага спаборніцтва выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускае грамадскае аб'яднанне «Фотамастацтва», Беларускі саюз журналістаў. Асноўная мэта конкурсу — паказаць гісторыю і сучаснасць нашай краіны. Матэрыялы, аформленыя ў адпаведнасці з Палажэннем аб парадку правядзення рэспубліканскага творчага фотаконкурсу «Фота Беларусі» (змешчана на сайце Выдавецкага дома «Звязда» — zviazda.by), прымаюцца з 30 верасня 2014 года.

Вынікі будуць падведзены ў маі 2015 года. Таксама плануецца арганізаваць фотавыстаўку і выпусціць альбом з працамі пераможцаў і лаўрэатаў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Фоташтрых*



*Фота Кастуся Дробава*

*Падчас адкрыцця выстаўкі слова бярэ малодшы сын Арыэля Шарона Гілад Шарон (справа).*

*Выстаўка, прысвечаная ваеннай і палітычнай дзейнасці выхадца з Беларусі, Прэм'ер-міністра і генерала Дзяржавы Ізраіль Арыэля Шарона, адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.*

# Сезон падзей

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі распачаў новы, 21, тэатральны сезон — «Сезон падзей». Чым акцёрска-рэжысёрскі склад будзе здзіўляць гледача, даведаўся карэспандэнт «ЛіМа».

— Мы вырашылі абапірацца на еўрапейскі фармат тэатра, рабіць не толькі класічныя праекты, але і сучасныя — прадстаўляць як тэатральнае мастацтва, так і музычнае, выяўленчае, — распавёў дырэктар РТБД Уладзімір Карачэўскі. — У новым сезоне, акрамя спектакляў, гледачы змогуць пабачыць мастацкую галерэю ў фае тэатра: першай плануецца выстаўка «Мінск учора і сёння». Дзякуючы «Музычным салонам», што будуць ладзіцца кожны апошні чацвер месяца, гледачы пачуюць джазавую і класічную музыку. У планах РТБД — «Беларуская музычная восень». На працягу трох кастрычніцкіх вечароў акцёры будуць спяваць разам з гасцямі-спевакамі.

«Сезон падзей» пацешыць трыма прэм'ерамі. Назва першай трымаецца ў сакрэце. Вядома толькі, што ставіць спектакль сучаснага фармату кіраўнік Цэнтра беларускай драматургіі і рэжысуры Аляксандр Марчанка. Прэм'ерны паказ адбудзецца ў снежні. У сакавіку 2015-га маладая рэжысёр Кацярына Аверкава прадставіць п'есу беларускага драматурга Мікалая Рудкоўскага «Вялікае перасяленне ўродаў». А на пачатку лета мастацкі кіраўнік РТБД Аляксандр Гарцуеў прэзентуе знакамітую п'есу Дзмітрыя Багаслаўскага «Любоў людзей». Акрамя таго, тэатр плануе ўзнавіць свой знакавы спектакль-візітоўку «Адвечная песня» паводле паэмы Янкі Купалы. Сёння ўзнаўляюцца дэкарацыі, касцюмы, робіцца перазапіс фанаграм. Прыкладна ў лютым 2015 года спектакль зноў зойме пачэснае месца ў рэпертуары РТБД.

У межах фестываля «ТЭАРТ — 2014» Цэнтр беларускай драматургіі, які працуе пры РТБД, арганізуе чыткі п'ес «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова і «Вагон» Віктара Красоўскага і Ірыны Гарэц. Пры падтрымцы фонду «Ідэя» плануецца зрабіць драматургічную лабараторыю больш даступнай для шырокага кола гледачоў. Любыя чыткі тэкстаў будуць здымацца на відэа і размяшчацца на спецыяльным інтэрнэт-сайце.

У маі 2015 года РТБД прыме ўдзел у Міжнародным тэатральным фестывалі імя А. П. Чэхава ў Маскве. Тэатр пазнаёміць замежжа з сучаснай беларускай драматургіяй, пакажа спектакль па п'есе Дзмітрыя Багаслаўскага «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў». Таксама ў межах «Сезона падзей» РТБД будзе супрацоўнічаць з Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Тэатро». 17 лістапада маладыя французскія акцёры перад паказам спектакля «Кантракт» сустрэнуць гледачоў нацыянальнай музыкай, віном і сырам, а ў снежні адбудзецца сумесны беларуска-французскі тэатральны канцэрт.

**Паліна ПЛАТАВА**

# Фундамент для пошукаў

Пухавіцкі край багаты на славутых ураджэнцаў, якія засведчылі сябе ў выяўленчым мастацтве. Генрых Бржазоўскі рабіў партрэты народных мсціўцаў у пухавіцкіх лясах у Вялікую Айчынную вайну. Барыс Рэпін, мастак кіно, нарадзіўся ў Мар'інай Горцы. З горадам і раёнам звязаны жыццё і творчасць жывапісцаў Аляксандра Пашкевіча, Аляксандра Дасужава, Вольгі Калацэй, Хведара Ладуцькі… Новае імя сярод пухавіцкіх мастакоў — Дар'я Раманенка.

Выстаўка працуе ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі. Увазе гледачоў прадстаўлены цікавыя работы дзяўчыны, у якіх прасочваюцца лепшыя традыцыі беларускага жывапісу. Дарэчы, да паступлення ў Акадэмію мастацтваў Дар'я закончыла Мінскую гімназію-каледж імя І. У. Ахрэмчыка.

— Варта зазначыць, што традыцыі маладая мастачка спалучае з пошукам, наватарствам, — адзначыў на адкрыцці выстаўкі кандыдат мастацтвазнаўства Яўген Шунейка, які ведае творцу па вучобе ў акадэміі. — Настойлівасць, з якой студэнтка працуе над выкананнем абавязковых заданняў, становіцца асновай, фундаментам для яе пошукаў.



*Работа «Пенні — Фарцінг».*

«Бліжэй да чалавека» — магчымасць зазірнуць у вочы персанажаў. Гледачы становяцца ўдзельнікамі своеасаблівага свята адкрыццяў. Мастачка не навязвае сваіх поглядаў. Яна дапамагае пераканацца ў першынстве тых ці іншых колераў. Часам складваецца ўражанне, што Дар'я пераконвае, што партрэты дапамогуць адкрыць штосьці дагэтуль невядомае.

— Гэта ўжо не першая сустрэча гледачоў з работамі Дар'і ў карціннай галерэі нашага музея, — распавёў дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. — Мы ладзілі яе выстаўку яшчэ да паступлення дзяўчыны ў Акадэмію мастацтваў. У прафесійны жывапіс уваходзіць апантаны, дзеяздольны, перспектыўны творца.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

**Мінскае гарадское аддзяленне
Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**24 верасня** — *на вечар духоўнай паэзіі і музыкі, які адбудзецца ў межах «Дзён праваслаўнай культуры». Мерапрыемства пройдзе ў Нацыянальным мастацкім музеі (вул. Леніна, д. 20). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**24 верасня** — *на юбілейны творчы вечар празаіка Валянціна Маслюкова, які пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17:00.*

**25 верасня** — *на юбілейны творчы вечар паэтэсы, перакладчыцы і сцэнарыста Таццяны Шпартавай, які будзе ладзіцца ў Музеі «Дом Ваньковічаў» (вул. Інтэрнацыянальная, д. 33а). Пачатак у 17:30.*

**25 верасня** — *на юбілейны творчы вечар паэтэсы Ганны Чумаковай. Імпрэза пад інтрыгуючай назвай «Л…» пройдзе ў актавай зале філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (вул. К. Маркса, 31). Пачатак а 18-й гадзіне.*

Іван ЖДАНОВІЧ



## Ліхтары на Нарачы

Памяці Тамары Сапежанкі

Цёмнай ноччу
На ціхую Нарач
Дзеці запускаюць свае
Плывучыя ліхтарыкі.
І, нібыта буйнымі зоркамі,
Неба
Асыпаецца ў ваду.
У змроку не відаць
Постацяў саміх ліхтарнікаў —
І толькі свечкі
З аўрамі абажураў
Свецяцца ўначы.
Усе высілкі дзіцячых рук,
І ветру, і хваляў —
Застаюцца ў цемры.
І толькі ліхтарыкі,
Свечкі ў абажурах надзеі і веры,
Сведчаць, што тут
Не згасла жыццё.
...У цемрыве паўсядзённасці
Запальваем ліхтары
Сваіх сэрцаў.
На хвалях вечнасці
Знікнуць нашыя целы,
Нашыя рукі,
Згаснуць нашыя вочы...
Задзьме вецер часу
Свечкі жыццяў,
Запаленыя без абажураў веры, —
І будуць свяціцца ўначы
Толькі агні сэрцаў,
Адданых ісціне.

## Пакланенне Сонцу

О, Сонца!
Твой гарачы нораў
Спазнала сёлета зямля.
Спазналі й людзі...
Ты прымусіла пакланіцца сабе,
І прасілі ў цябе літасці
Травы й дрэвы.
Ты пусціла па зямлі,
Што выракласе Бога,
Віхуры пылу й агню.
Ты прымусіла людзей
Нарэшце ўспомніць,
Што Сонца — гэта не толькі
Увасабленне бескарыслівай любові,
Не толькі дармавое святло,
І цяпло, і лагода,
Але й боль, і пакута, і сіла...
О, Сонца!
Ты паставіла
Фанабэрыстую, палыселую
Ад спякоты Зямлю
На калені —
А яна ўсё пнецца схавацца
Ад тваёй праўды
За клубамі едкага ахвярнага дыму,
У цемру ўласнага ценю...
І нехта з людзей
У роспачы ад спякоты
Пачынае пакланяцца цемры й ночы.
А мудрэйшыя
Падымаюць вочы да неба —
Без выкліку й бравады,
Без злосці й абурэння...
О, Сонца!
Прымі ж і маю пакорлівую малітву,
Прашу ў цябе, Міласэрнае,
Спачування да людзей,
Якія на цябе ў крыўдзе,
І, асепленыя тваёй
Гарачай любоўю,
Самі не ведаюць,
Што твораць.
Амінь.

## Новы сад

Той сад,
Што колісь цешыў гаспадароў
Пахкімі яблыкамі,
І тая пустка,
Дзе некалі панавала печ,
І тая сцежка,
Па якой тупацела
Чыёсь дзяцінства, —
Усё парасло быльнягом...
І гэтак балюча
Бачыць у шматлюдным горадзе,
Які стогне ад недахопу жылля,
Асірацелы пляц.
Адсюль генеральны план
Вымеў людзей
І вытварыў лагоду пустазеллю.
...Перш чым разбурыць у сабе
Адну веру,
Якой бы старой і хісткай
Яна ні была, —
Падумай:
А ці хопіць у цябе сілаў,
Каб зруйнаваная душа
Змагла распраміцца,
Адрадзіцца,
Несці свой крыж далей?
Прычым не ў зарасніках быльнягу,
А ў новым садзе,
Новай хаце
З вокнамі,
Звернутымі да сонца.

Алёна ПАПКО



## Беларусь мая

Да зор ляцець нам тысячы гадоў —
І тысячы гадоў назад вяртацца.
Пакінь жа ўчасце летніх вечароў,
Каб век ад веку мне ім прычашчацца.

А восені прамоклы парасон
Дзяліць без здрады з ценем лістападаў.
Жыццё было і застаецца сном —
Між воляю багоў і самасадам.

Дзе кросны ткуць дарогі на дваіх,
Нам месца адшукаецца пад сонцам.
Пульсуе на далонях час маіх,
А Беларусь няхай жыве бясконца!

***

І нам гадоў адмерацца валокі...
Анёлы не пакінуць той зямлі,
Якую мудрыя штогод прарокі
Як цудадзейны эліксір
нам берaглі.

Усе дарогі, што вядуць да Рыма,
Па сэрцы пешшу
стрымгалоў прайшлі.
Але адбіткам ў памяці — Радзіма,
Куды адвеку ўсе шляхі вялі.

І мы вярталіся...
Да тых аблокаў,
Рамонкавых у сіняве ракі.
І душы мы гаілі чыстым сокам
Бярозавым на доўгія вякі.

***

Прыйдзе дзень — пажаўцеюць клёны,
І на небе адмоляць праклёны.
Час не вернецца, што прабяжыць,
Я ж антонавак
пах буду сніць!

Ён ічымлівы, як вецер над садам,
Насцеж вокны ў душы лістапада.
Колькі светлай наўкол дабрыні,
Бо анёлы жывуць на зямлі.

Наталіцца дай восеньскай спёкай,
Каб быць побач, і ў той час — далёка.
Горкі мёд, што на вуснах цыкута,
Стаць каханню
ягонай атрутай.

Каб паверыць у светлыя сны,
Дабудуеш свой дом да вясны —
І шкада, што ён будзе не наш.
...Пазалочаных
клёнаў віна!

Галіна ЗАГУРСКАЯ



***

Сабрала лета золата калоссяў
Ды адплыло няведама куды,
І крочыць зараз пераможна восень,
І жураўы крычаць сваё «курлы».

А восень сыпле золатам лістоты,
Агнём рабін апальвае душу,
Кудысь імкнецца ўся мая істота —
Трывожна, ды збавення не прашу

Ні ў восені, ні ў тых, хто ўжо далёка,
Ні ў тых, хто побач запаволіў крок,
Каб азірнуцца...
Я гляджу з палёгкай
На адзінокі трапяткі лісток.

Яму, напэўна, болей адзінока:
Ляцеў, кружыў і падаць не хацеў,
Глядзеў з надзеяй на блакіт высокі
І восені чароўнай слухаў спеў.

Красуе восень. Запаліла свечкі
Бярозак, што стаяць на скразняку.
Плывуць аблокі — белыя авечкі,
Плыве лісток,
што трапіў у раку.

І я плыву — куды,сама не знаю—
За тым лістком праз бурны вір вады.
Тут цішыня стаіць
да небакраю —
І ўжо няма трывогі і нуды.

## Перад ноччу сіняй...

Ёсць сувязі нябачныя зямныя
Паміж людзьмі, падзеямі, вякамі:
То добрыя, а то і надта злыя —
Яны заўжды ўладарныя над намі.

Бывае, поўня гляне светлым лікам
І зачаруе — кожны гэта знае:
Мы сцішымся пад тайнаю вялікай,
Ну а яна, няўлоўная, сплывае.

Ўсміхаецца над нашаю гардыняй
І над усім, што гэтак нам жадана...
Суцішаны мы перад ноччу сіняй —
І ўсё зямное бачыцца падманам.

## Пад поўняй...

На небе поўня бледна-залатая
Свае прамені сее на блакіт
І наваколле тайнай напаўнае —
Сплывае срэбра на лісцё ракіт.

І прывіды навокал незямныя,
І кветкі месяцовыя цвітуць,
Прымоўклі дрэвы і цяпер, нямыя,
З таемнасцю насустрач мне плывуць.

І лёгка стала ў дзіўным гэтым свеце:
Я на праменях поўневых плыву —
Нібыта я на прывіднай планеце
І тых, каго люблю, адтуль заву.

## У месяцовым перламутры

На срэбнай ніцы веташок
Гайдаецца ў начной прасторы,
З ім перамігваюцца зоры —
Натхнення нашага выток.

І на хвілінку нат здалося,
Што шэпча мне начная ціш:
«Расправіш крылы —
паляціш»...
Ды не — з палётам не збылося.

І ўсё ж душу сваю лячу
Я месяцовым перламутрам.
Каб стаць назаўтра
зноўку мудрай,
Да зорак думкамі лячу.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



## З нарачанскага сшытка

***

Прага белага ліста
Ад раскрытага блакнота,
Як таемная ахвота,
Як віно пасля паста.
Што ты хочаш ад мяне.
Чыстая, як снег, папера.
Як табе свой лёс даверыць
Зноў насуперак мане?
Як адважыцца пайсці
Лабірынтам хуткіх літар.
Спевам і слязой праліцца
У гадоў густым трысці,
Чараўніцтвам дзіўных сноў,
Цішынёй, птушыным граем?
На стале ляжыць блакнот
І бязлітасна чакае.

***

Крыжы на могілках вясковых,
А ў небе хуткія стрыжы...
І ў вершалінах дрэў сасновых
Нібыта бачацца крыжы.
І лёс у кожнага паўстане,
Будзь гэта Полацк ці Парыж,
Ад споведзі да ратавання
Свой адмысловы несці крыж.
Ён з намі будзе да скančэння
Прахрочаных зямных шляхоў.
Яго нам несці да збаўлення
Былых памылак і грахоў.

***

Пацеркі суровых камяніц
На маёй зямлі як сімвал веры.
І вядуць нас каваныя дзверы
Па крутых прыступках да званіц.
Бо і ад пажараў, і вайны
Абярэгам, заклікам, трывогай
Нас будзілі гэтыя званы,
Клікалі ўвесь люд на дапамогу.
Зноў над купаламі птушак грай
І зямлі не высахлі крыніцы,
А наўсцяж — бацькоўскі родны край
І як сімвал веры — камяніцы.

***

«Жанчына ўкленчыла ў касцёле»
З даўняга верша

Жанчына пад арган спявае
І словы мкнуцца да нябёс...
Спякотны дзень. Касцёл. Камаі
Мне падарожны выдаў лёс.
Звінеў яе вакал высокі,
Ён мне на момант узгадаў
Другі касцёл, што пад Глыбокім,
Дзе я разгублены стаяў.
«Жанчына ўкленчыла ў касцёле»—
Тады я выдыхнуў радок...
Жыццё шырокае, як поле,
Ды ёсць пачатак, ёсць выток.
Тады я ўбачыў тыя дзверы,
Што адкрывалі новы дзень,
Што ўзносілі да светлай веры,
Што песцілі ў душы прамень.
Жанчына пад арган спявае,
Салодка песціцца душой.
І стоена маўчаць Камаі,
Куточак беларускі мой.

## У лесе

Што гэтым дрэвам да мяне?..
Яны ўзіраюць раўнадушна
Сваім спакоем непарушным.
Нібыта ў летаргічным сне.
Чаму ж тады ад іх хачу
Адчуць маўклівую спагаду
І іх даверлівую радасць
У кронах велічных пачуць?
Бо хочацца яшчэ пачаць
Ізноў шукаць натхнення крылы
І напаўняць жаданнем сілы!
А дрэвы, як назло, маўчаць.

Зміцер АРЦЮХ

## *Два апавяданні*

# Калі жалуды размаўляюць



За акном было ўжо цёмна. На небе ні зорак, ні месяца. Толькі гарэла святло ў суседнім шматпавярховым доме. Яно не выключалася ні на хвіліну. Дом, як мурашнік, жыў 24 гадзіны ў суткі. І яе гэта неяк падбадзёрвала. Асабліва зараз, бяссоннымі асеннімі начамі. У позні час было аб чым падумаць, успомніць. Глядзела ў чужыя вокны — і як бы пражывала яшчэ адно жыццё. Пражывала і за сябе, і за іншых. Была б магчымасць — без сумненняў вярнулася б у маладосць. Там засталося яе шчасце: муж і сыны.

Шумела вуліца. У пакоі ледзь чутна гаварыла радыё. Гарэла лямпа, мяккае святло падала на твар бабулі, на ніткі, якія ў яе руках збягаліся ў маленькую шкарпэтку. Святло гублялася ў задуменных вачах. І менавіта ў вачах ператваралася ў цяпло. Яго яна дарыла ўсім.

Жанчына лічыла вочкі на спіцах. Уздыхала. Апускала рукі. Вочкі часта губляліся, і яна зноў пачынала лічыць. Вязанне дапамагала забыцца на боль, які ўжо даўно пасяліўся ў яе сэрцы.

— Адзін, два, тры...

Спыніў тэлефон. Ён стаяў на зэдліку, побач з лямпай і ложкам. Жанчына адклала вязанне, узяла трубку, прылегла на высока пастаўленыя падушкі.

— Ой, Светачка, ластаўка мая, добры вечар, добры. Ну як вы там?.. А што я? Ляжу як трупень... Усё добра... Не трэба ехаць. Я буду хвалявацца. А мне ж з маім сэрцам нельга. Глядзіце лепей сябе... Не, Светачка, не едзь... Як там мая сястрычка? Папраўлялася ўжо?.. Ну ты глядзі яе… Ну я ведаю, што яна крапчэйшая за мяне, але ж ты глядзі матулечку… Перабірала нядаўна старыя фотаздымкі, дзе сыночкі мае. Так цяжка, Светачка, так пячэ ў грудзях. Гэта ж восем гадкоў зямельку параць. Заўтра харанілі Колечку... Навошта так жыць, Светачка? Скажы, навошта? Былі б жывыя мае дзеткі, то і я б здаравейшая была. А зараз. Што зараз? Ніякай цікавасці да жыцця... Не, усё добра... Я не плачу ўжо. Выплакалася ўсе слёзы. Ты не хвалюйся. Глядзі сябе... Нагаворым зараз. Грошай не хопіць... Ну ўсё, любімая, шчасліва вам. Глядзі сябе.

Позірк бабулі спыніўся на лямпе. Святло быццам цалавала яе слёзы. Жанчына ляжала нядоўга. Знайшла ў сабе сілы, каб зноў сесці. Узялася за вязанне. Трэба ж для Свецiных унукаў шкарпэткі дарабіць.

— Адзін, два, тры...

Вочка за вочкам звязваліся ў звыклы для вачэй узор.

Зноў зазваніў тэлефон. З трубкі данёсся голас другой пляменніцы. Яна жыла тут, у Мінску, працавала ў лазні. Яна любіла сваю цётку, але ў госці прыязджала рэдка, больш тэлефанавала.

— Ну, я ўжо заступіла на пост, — пачынала Марына, а затым гадзінамі расказвала ўсе навіны, якія адбываліся ў лазні. У адрозненні ад Светы, у якой была вялікая сям'я, Марына не мела ні дзяцей, ні мужа. Пакуль была маладая, жыла для сябе, падарожнічала. А вось цяпер выйшла на пенсію і пра сям'ю стала думаць позна. Ды яна і прывыкла ўжо адна, гаворачы, што ад кавалераў адны клопаты, бо нармальных мужчын зараз няма.

— Ой, даражэнькая, была б я здаравейшая, то, думаеш, сядзела б дома? Не, я пайшла б працаваць. З людзьмі весялей. Прыходзяць, расказваюць свае гісторыі, дзеляцца праблемамі, а хто і шакаладкай пачастуе. Як хочацца да людзей.

— Вас і зараз тут усе ўспамінаюць. Чакаюць.

— Ой, Марыначка, не з маім сэрцам.

Размова была доўгая. Марына расказвала пра дырэктара і міліцыю, якая знайшла ў лазні наркотыкі, расказвала пра антысанітарыю, пра частыя п'янкі, пра тое, як касіры паўторна пускаюць скарыстаныя білеты, а грошы потым дзеляць, пра перарасход вады... Шмат пра што расказвала.

З кожнай новай тэмай іх гутаркі вуліца шумела ўсё менш і менш. Прыемна стукаў гадзіннік, хрыпата гуў старэнькі халадзільнік. Усё ў гэтай хрушчоўцы жыло сваім размераным жыццём. І толькі час ад часу ў павольны рытм урываўся грукат дзвярэй у суседняй кватэры, п'яныя разборкі наверсе, смех моладзі на вуліцы. Там была сучаснасць, а тут, у маленькай аднапакаёўцы, час быццам спыніўся і чакаў…

Гадзіннік падбіраўся да поўначы.

— Ой, Маша, пайду я хоць чаю пап'ю. Нешта есці захацелася, і не ведаю, што на язык пакласці. Звані. А гэтых сяброў дырэктара, якія па начах у люксы прыходзяць, не пускай больш. Табе ж адказваць прыйдзецца, калі раптам што здарыцца. Ён скажа, што гэта ты пусціла. Ведаю я яго.

На кухню ў адчыненую фортку заляцеў халодны вецярок. Ён любіў гэтую кватэру. Кружыўся тут у бутонах і лістах ярка-чырвонай герані, гарэзліва скакаў па рознакаляровых астрах. Кветкі ўчора прынёс адзіны ўнук, які забег з сябрам на хвілінку, ведаючы, што ў бабулі была пенсія і тая дасць яму грошай. Бабуля ніколі не адмаўляла. Яна любіла глядзець на падлетка, які так быў падобны да бацькі.

Недапіўшы гарбату, жанчына ўзяла ў рукі падабраныя сёння жалуды. Ёй падалося, што яны выпраменьваюць нейкае чароўнае святло. Як захапілі гэтым. Як супакоілі. Стала так добра, лёгка, знік боль. Яна зноў пачула, як завурчаў халадзільнік. Дыктар па радыё пажадаў усім добрай ночы. Лямпачкі ў суседнім доме паступова пачалі выключацца, і, нечакана для яе, святло знікла зусім. Жанчына пазірала ў акно і не верыла. Стала так цёмна, ціха-ціха. Праўда, толькі на імгненне, бо гэтую цішыню парушыла размова. Яна даносілася адтуль, з жалудоў. Праз іх абалонку бабуля ўбачыла людзей. Іншых, не такіх, як мы, але людзей. Яны ж не бачылі яе.

— Я і не думаў, што ў чалавека такое цяжкае жыццё. Яны так прывыкаюць да ўсяго, яны так пакутуюць ад усяго. На нашай планеце гэтага няма.

— Яна згубіла ў маладосці мужа, пазней пахавала двух сыноў. Цяпер яна лічыць, што засталася адна.

— Але ж гэта часова, праўда? Зямны час кароткі…

— Яна з імі сустрэнецца ў іншых вымярэннях.

— Не ўсе ж людзі вераць у гэта. Яны лічаць, што жыццё адно.

— Так, яны не ведаюць, што зямля — гэта школа, гэта выпрабаванне для больш высокага жыцця. На зямлі трэба дарыць дабро і радавацца прыгажосці, якая пануе на ўсім.

— Мне не зразумелыя іх пачуцці. Не адзін мой прыбор не можа разгадаць іх. Што ў цябе? Можа, у тваім больш сучасным караблі чытаецца што-небудзь?

— Не. Гэта загадка. Сістэма дае збоі. Чалавечае жыццё непадуладна нашай навуцы. Яны ўмеюць плакаць, смяяцца, яны могуць любіць і кахаць. Яны падсвядома ведаюць, як быць шчаслівымі, але не ўмеюць гэтага дасягнуць.

— А можа, не хочуць?..

— Яны ідуць на пакуты, каб потым зведаць імгненнае шчасце, а потым зноў пакутаваць. У іх не можа адразу быць усё добра. У іх паласатае жыццё.

— А мы? Чаму мы можам зрабіць усё, што пажадаем? Чаму ў нас усё так лёгка?

— У нас няма імкнення да ўдасканалення. Мы дасканалыя.

— Значыць, нам трэба ёй дапамагчы.

— Мы не маем права. Уладар Сусвету нам гэтага не дазволіў. Чалавек сам павінен прайсці навучанне і здаць экзамен на дасканаласць. Чалавек павінен навучыцца быць удзячным за ўсё.

— І нават за боль?

— За боль у першую чаргу…

Вецер усё абдымаў рознакаляровыя астры, губляўся ў бутонах і лістах ярка-чырвонай герані. Жалуды зніклі, а святло і шум з'явіліся зноў. Дом, як мурашнік, працягваў жыць 24 гадзіны ў суткі. Па-ранішняму загучала вуліца, пачало спяваць радыё, яшчэ больш хрыпла азываўся халадзільнік. І сонца. На небе з'явілася сонца. Праз халоднае шкло яно падала на недавязаную шкарпэтку…

# Недасланы ліст бацьку

Бацька пастаянна казаў сыну ажаніцца. Не тое, што прымушаў, хутчэй клапатліва нагадваў пра гэта падчас чарговага запою. А яны ў бацькі былі ледзьве не кожны дзень. Цвярозым жа ён маўчаў як рыба. Віця цярпеў, цярпеў, пакуль аднойчы ў яго не вырвалася:

— А я не хачу жаніцца. Я пайду ў манастыр, — праўда, гучала гэта не як сцвярджэнне, а хутчэй як пажаданне, якое з'явілася пасля наведвання некаторых манастырскіх службаў.

Бацька на некалькі хвілін змоўк ад нечаканасці (наколькі гэта было магчыма ў ягоным стане), падазрона паглядзеў на хлопца і, закурыўшы папяросу, спытаў:

— Што я кепскага зрабіў табе, што ты такое надумаў? Ты ж мой старэйшы сын…

Некалькі хвілін памаўчаў і дадаў:

— А можа і праўда… Усё адно ж канец свету хутка. І навошта тады сям'я, працяг роду. Знікнем усе, як маманты.

Віця нічога не казаў, а толькі з болем глядзеў на бацьку, такога худога, нястрыжанага, няголенага, лахматага… Ён слухаў ягоныя ўспаміны пра дзяцінства, якія ўжо сто разоў дагэтуль чуў, слухаў пра бессэнсоўнасць жыцця, пра тое, што невядома, для чаго жыць. Бацька злаваўся на ўсіх за рамонт у хаце, што прымушаюць яго хадзіць на працу:

— Я і на сваю пенсію пражыву, — бывала, вырывалася ў яго. — Для каго гэты рамонт, гэта ўсё? Хто тут жыць застанецца? Хаце гаспадар патрэбны. А хто ім тут будзе? Для каго я ўсё гэта раблю?..

Ён шмат гаварыў, узгадваў, злаваўся, крытыкаваў, паўтараў адно і тое ж некалькі разоў, задаваў пустыя пытанні. Віця даўно хацеў пагаварыць з ім, каб той паспрабаваў змяніць сваё жыццё. Хлопцу здавалася гэта магчымым, але потым супыняў сябе: «яйкі ж курыцу не вучаць», і маўчаў.

А бывала, Віцю хацелася, каб бацька хутчэй памёр, бо недзе ў душы ён злаваўся на яго. Праўда, хаваў ад сябе гэтую крыўду, але ж яна жыла ў ім і час ад часу нагадвала пра сябе.

З ранняга дзяцінства Віцю, яго братам і сёстрам не хапала бацькоўскай увагі, парады, падтрымкі… Словам, не хапала бацькі. Ён у дзяцей як бы і быў, але ў той жа час яго і не было. Выхаваннем займалася маці, бабуля, суседзі, школа. Быў час, калі зрывалася і маці, пачынала выпіваць. Тады дзеці хадзілі па суседзях, начавалі на вуліцы. Аднойчы летам Віця збег ад бацькоў у вёску да дзядулінай сястры, бабулі Алены. Яна ўсё жыццё пражыла адна, была жанчынай набожнай і кожную нядзелю хадзіла ў царкву. Прыезду малога не здзівілася, не распытвала і нават не адразу паведаміла бацькам. Прыняла яго на ўсё лета. Вадзіла з сабой у храм і ўпершыню прычасціла.

Да гэтага часу Віця з прыемнасцю ўспамінае тое лета і ніяк не можа зразумець, чаму бацькі так сябе вядуць.

Думаў, думаў і надумаў, што ва ўсім вінавата савецкая ўлада, якая вучыла, што Бога няма, а рэлігія — гэта атрута для народа.

— Мы галодныя хадзілі… Я чужых кароў пасвіў… — мармытаў, засынаючы, незвязаныя словы бацька.

Ён сапраўды нарадзіўся ў галодны пасляваенны час. Яго маці, Кацярына, была звычайнай вясковай кабетай. У дзяцінстве яе прывучалі да малітвы, але гэта было фармальна, так бы мовіць, з-пад палкі. Бога яна так і не знайшла. Можа, таму ваенныя гады адапхнулі паходы ў царкву на другі план. Ды і жыццё царкоўнае ў іх вёсцы на час вайны заціхла. Не было каму гаварыць пра веру. Людзі больш думалі, як выжыць, як пракарміць дзяцей, а не як славіць Бога.

Калі першы Кацін муж загінуў на фронце, яна сышлася з аднавяскоўцам і нарадзіла ад яго траіх дзяцей. Каб атрымліваць больш грошай, дала Віцінаму бацьку прозвішча першага мужа, а імя па бацьку — дзядуліна. Так хлопец і рос. Пасталеў і пачаў выпіваць, пакурваць. У 17 гадоў паехаў у горад, пазнаёміўся з дзяўчынай, потым кінуў яе цяжарнай, нешта ўкраў і трапіў у турму.

Калі яго вызвалілі, вярнуўся ў вёску, уладкаваўся на працу. Пазнаёміўся з другой дзяўчынай, якая таксама зацяжарыла. Па прымусе маці жаніўся. Вядома ж, працягваў піць, курыць, гуляць. Часта біў жонку. Такое вось было жыццё.

Ведаючы ўсё гэта, Віця не хацеў быць падобным на бацьку, імкнуўся не асуджаць яго, па-свойму шкадаваў, але па-сапраўднаму не любіў. Часта браў у рукі малітваслоў і думаў: «Ну як мне навучыцца шанаваць яго? Як мне не парушаць запавет?» Аднойчы Віця вырашыў для сябе: калі бацька пачне змагацца за Жыццё, калі дойдзе да Святой Чашы, то ён выканае яго волю — стварыць сям'ю; а калі бацька пампрэ без пакаяння, то Віця прыме пострыг. Сказаць пра гэта не рашыўся, таму сеў і напісаў:

— Тата, скажы мне, што будзе з дрэвам, калі яго не паліваць?

— Як што будзе? Засохне…

— І карані, і голле, і лісты, і плоду нават не будзе?

— Ты што, дурны? — Віця не хацеў бы такога адказу, але ён ведаў, што п'яны бацька так сказаў бы. —Вядома ж, не будзе. Як жа ім быць, калі корань засохне?

— А калі дрэва пастаянна заліваць?.. Я ўжо не кажу пра атручаную ваду. Нават калі заліваць простай вадой, то што будзе?

— Ну ты сапраўды ідыёт. І чаму там цябе ў тваім універсітэце вучылі?

— Ты ведаеш, што і ў першым і ў другім выпадку дрэва загіне. І як бы ні хацеў, ураджаю не атрымаеш.

— І што з таго?

— Вось і ты — гэта корань, і калі ты не п'еш з жыццядайнай крыніцы, то як можаш разлічваць на ўраджай?! Глядзі, у цябе нарадзіўся ўнук. Ён інвалід. Ты думаў, чаму так?.. Калі, скажам, не глядзець яблыню, то яна пачне прыносіць хворыя яблыкі, яны будуць з кожным годам драбнейшымі. Корань і голькі будуць, але самі яблыкі ў рэшце рэшт стануць маленькімі, кіслымі, а потым і наогул знікнуць. Застанецца толькі спілаваць і спаліць. Для гэтай яблыні надыдзе канец свету, а тыя, што растуць побач, будуць працягваць пладаносіць. У цябе яшчэ ёсць дзеці, ты хочаш яшчэ ўнукаў. Ты можаш дапамагчы ім нарадзіцца здаровымі, але для гэтага табе самому трэба прыняць лекі, падкарміць карэнне. Ратуючы сябе — ты ратуеш нас! Вядома, чалавеку самому выратавацца немагчыма, але ж ёсць Бог. Ён можа гэта зрабіць. І Яму, як Бацьку, балюча глядзець на сваіх хворых дзяцей. Вось калі дзіця папросіць у цябе дапамогі, ты ж не кінеш яго — ты падасі руку і дапаможаш. Я думаю, і табе трэба папрасіць дапамогі.

Віця склаў ліст у канверт. Яму так хацелася адправіць гэты допіс бацьку, хацелася, каб ён прачытаў і хоць нешта пачаў мяняць у сабе. Але пісьмо Віктар не даслаў. Спачатку яму было страшна, а потым проста забыўся.

…Праз месяц бацька сур'ёзна захварэў.

# Забойства і неўміручасць

**Калі вы чыталі ліпеньскую «Маладосць», то наўрад ці прапусцілі новы твор Валерыя Гапеева «Неадпраўленая аповесць». Зрэшты, гэтае інтэрв'ю мусіць зацікавіць вас ва ўсякім выпадку: нячаста даводзіцца паслухаць развагі аўтара пра свой твор. Тым самым мы пачынаем новую рубрыку «Сама-Крытыка», своеасаблівы жанравы гібрыд, які ў ідэале мусіць змяшчаць элементы інтэрв'ю, рэцэнзіі і яшчэ чаго-небудзь цікавага.**



**— «Неадпраўленая аповесць» прыкметна выбіваецца з шэрагу іншых сучасных твораў. Што падштурхнула вас да такой тэмы?**

— Кладу руку на сэрца: не ведаю, што штурхала. Аснова была напісана даўно, але пасля перароблена. Чаму перарабіў і з якой мэтай… Мяне хвалюе тэма сакральнасці, сакральных месцаў, хвалюе любоў ва ўсіх яе праявах.

**— Ваш твор нельга назваць класічным дэтэктывам, гэта, хутчэй, дэтэктыўная навела...**

— Сапраўды, такая яго пабудова — апавед пра апавед.

**— Ці чакаць ад вас дэтэктыўны раман?**

— Наўрад ці некалі буду пісаць дэтэктыў у чыстым выглядзе, але і ў рамане «Праклён» прысутнічае дэтэктыўны элемент, і ў новым задуманым творы гэты складнік будзе павялічаны. Мне падаецца, што ў нашай сучаснасці, калі самых розных цікавасцей наўкола — процьма, пісьменніку не абысціся без пэўнай загадкавасці… Толькі не трэба думаць, што гэта штучная спроба прыцягнуць увагу, даніна модзе. Калі азірнуцца на напісанае, то без пэўных загадкі не абыходзілася і ў маіх ранейшых аповесцях для падлеткаў.

**— Яшчэ адна, апроч жанравай, адметнасць «Неадпраўленай аповесці» — тэма рэінкарнацыі, якую вы працягваеце праз увесь твор, на якой, уласна кажучы, ён і пабудаваны. Цікава, ці верыце вы самі ў перасяленне душ?**

— Не, наўпрост пра перасяленне душ я не кажу… Веру ў несмяротнасць душы, гэта адно. Другое: іду супраць кананічнага праваслаўя, але перакананы, што душы памерлых не чакаюць ніякага асаблівага дня другога пришэсця — яны і цяпер жывуць… Жывуць недзе там, нехта кажа — у Выраі, нехта — у наасферы Вярнадскага. Я ведаю проста, што душы — жывуць. І сіла любові і толькі любові здольная звязаць іх — адтуль, з намі — тут. Тое, што душа прыходзіць у гэты, наш, свет птушачкай, — мной не прыдумана. У гэта верылі, ды што тут казаць — гэта ведалі (!) нашы продкі.

…На другі дзень пасля пахавання мамы, раніцай, мы сядзелі за сталом, снедалі. Сцішана, моўчкі пілі каву. У нас стол стаіць каля вялікага акна… І раптам да яго прылящела сінічка. Прысела ля шыбіны, глядзіць, зазірае ў хату. Мы знерухомелі. Выпадкова? Думайце, як хочаце, але калі аднойчы здарыцца з вамі такое, тады адчуеце тое, што адчулі мы… Ну, а што значыць, калі птушачка стукае ў шыбу ці залятае праз акно, казаць не буду, усе ведаюць…

**— Наступнае пытанне чытачу лепш прапусціць, калі ён яшчэ незнаёмы з творам. Спадар Валеры, усё ж такі фінал аповесці закрыты ці адкрыты? То бок, гісторыя з сойкай — усяго толькі фантазія, якая завалодала розумамі некалькіх герояў, ці рэальнасць?**

— Давайце скажам так: рэальнасць, якая завалодала розумам некалькіх герояў настолькі, што стала для іншых фантазіяй.

**— У пачатку твора мы сустракаем развагі журналіста пра яго прафесію, кшталту «яно, канечне, не вельмі высакародна, але і я есці хачу». Гэтыя думкі вы ўвялі з пачуцця прафесійнай салідарнасці ці развагі журналіста патрэбныя вам толькі дзеля абмалёўкі вобраза?**

— Што першаснае ў рабоце журналіста: абавязак, прафесійнасць ці чалавечнасць? Помніце, фатограф Кевін Картэр атрымаў Пулітцэраўскую прэмію за здымак памірaючай ад голаду дзяўчынкі, за спінай якой у чаканні сядзіць грыф? Нехта скажа: піяр на бядзе, на смерці — і будзе мець рацыю. А колькі спрэчак было пра здымкі, людзей, якія гінулі ў час цунамі? Для кожнага прафесіянала важна ім заставацца, але наступае момант, калі ты ўзважваеш: што губляеш і што набываеш. Дарэчы, гісторыя жыцця і смерці самога Кевіна Картэра ўражвае надзвычай: самагубства праз тры месяцы пасля сусветнага прызнання… Мне прыемна, што мой герой напрыканцы ўзважвае ўсё… і выбірае свой шлях.

**— Як многа ў апавядальніку ад яго стваральніка?**

— Мы абодва паверылі.

**— Калі я чытала «аповесць», у мяне не раз узнікала думка, што даволі рызыкоўна будаваць сюжэт вакол асобы рэальна існуючай і гэтульки вядомай (у вас гэта Одры Хэпбёрн). Так, чытач можа не падзяляць страсці герояў, і тады развіццё падзей падасца яму ненатуральным, як і пачуцці герояў. Больш надзейна было б выдумаць персанажа на месца Одры. Вы, канечне, цудоўна вытрымалі баланс. І ўсё ж, у вас такіх трывог не ўзнікала?**

— Для мяне тэма вядомых герояў у мастацкіх творах — адна з самых балючых! Ведаю, многія не падзяляюць майго пункту погляду, але я вельмі насцярожана стаўлюся да таго, калі ў аповесці, рамане дзейнічае вядомая гістарычная асоба. Ці мае права пісьменнік «ляпіць» героя на свой капыл? Ды яшчэ бывае, герой з XVIII — XIX стагоддзя пабаяўся. Трывога была іншая… Для нас такія клубы, такія дзівакі і такія месцы — нонсэнс, наш менталітэт працівіцца ўсяму, што звязана з шанаваннем, абагаўленнем некалі жывога чалавека. Апякліся на Леніне, зараз нават на Хрыста дзьмухаем... Што ўжо казаць пра клубы паклоннікаў Алы Пугачовай? Для большасці гэта дыягназ…

**— Вы, напэўна, самі з'яўляецеся вялікім прыхільнікам творчасці Одры Хэпбёрн?**

— Не стану сцвярджаць. Бо для мяне фільм як мастацтва — гэта работа акцёра, рэжысёра, сцэнарыста. Я асабіста ўспрымаю такое мастацтва як адно цэлае, не вылучаю геніяльнасць некага асобна. І самыя таленавітыя акцёры здымаліся ў фільмах, якія былі правальнымі…

**— Вы перанеслі падзеі за мяжу дзеля самой Одры ці ў вас падсвядома жыве адчуванне, што ў нашых рэаліях падобнае — нестандартнае злачынства, рэінкарнацыя — немагчыма?**




— Другое. У нас у прынцыпе немагчыма стварэнне такога вось месца, хоць прычына для забойства знойдзецца самая фантастычная. Але месца… Гэтым можа заняцца група падлеткаў, але больш дзя гульні. А вось каб нешта (пры ўмове, што ў цэнтры гэтай з'явы знаходзіцца чалавек) стала сакральным для ўсіх жыхароў аднае вёскі, горада — вось што немагчыма. Не ведаю, мажліва, у некага з чытачоў і ўзнікне адчуванне нашай непаўнавартаснасці ў гэтым плане — дык буду рады. Калі хоць аднаму чалавеку засадніць ад таго, што такое ёсць недзе: паляна Одры і традыцыя, і рытуал, а ў нас няма, — значыць, пісаў не дарэмна.

> **Ставіць гістарычную асобу ў цэнтр мастацкага твора — гэта не проста вялікая адказнасць. Тут адказнасць плюс адметныя веды, памножаныя на мастацкі талент і ўзведзеныя ў ступень сумлення.**

чынае думаць, аперыраваць у гаворцы сучаснымі катэгорыямі… Ставіць гістарычную асобу ў цэнтр мастацкага твора — гэта не проста вялікая адказнасць. Тут адказнасць плюс адметныя веды, памножаныя на мастацкі талент і ўзведзеныя ў ступень сумлення… Але ж у мяне не сама Одры, а яе паклоннікі, яе душа… Ведаю асабіста дзівакоў, якія, як і мой герой, здольныя гадамі збіраць усё пра вядомую актрысу, мець тысячы яе фотаздымкаў і траціць немалыя грошы на адзін новы. Ведаю пра існаванне розных клубаў, аб'яднанняў. Тут не

**— Калі вярнуцца да сюжэта, ці былі іншыя варыянты развіцця падзей?**

— Ага, хацеў вярнуць героя з турмы… Ці каб да яго туды сойка прыляцела.

**— Вы самі апраўдваеце забойства, пра якое напісалі?**

— Не. Таму і не стаў пакідаць жывым героя. Таму і сойку да яго не накіраваў. Таму мае героі яго хоць і шкадуюць, але не апраўдваюць.

**— У «Неадпраўленай аповесці» ёсць дзіўная атмасфера: восень, лес, і здаецца, што ўсё адбываецца ў прыцхлым паўзмроку. Вы неяк адмыслова натхняліся дзеля дасягнення такога эфекту?**

— Не ведаю, каму і што трэба для натхнення. Для задумы, абдумвання мне трэба дарога пешкі. У дарозе, нават кароткай — з дому на працу і назад — думаецца лёгка. А для запісвання таго, што складваецца ў галаве, трэба час, і час самотны. Некалі мог пісаць, трымаючы на каленях малую дачушку, яна з цікавасцю сачыла, як працуе машынка… А цяпер, як казаў Абдула Верашчагіну: «Стары стаў, лянівы…» Лес, восень, дубы — гэта мне вельмі знаёма. Помніцца, некалі ў дзяцінстве бацька прывёў нас у грыбы на такую паляну. Настолькі велічную, што нешта аж прымушала прыгнуцца… У такіх месцах і адбываюцца цуды. І вось заўважаю: тое, што некалі ў жыцці ўражвала, што прымушала забыцца на паўсядзённасць, захліпнуцца ад велічнай прыгажосці, рана ці позна з'яўляецца ў творах. Мабыць, так ва ўсіх, хто піша…

**— У вас ёсць улюбёныя аўтары дэтэктываў?**

— Дэтэктыў у сваім чыстым выглядзе я паважаю, але калі да яго дадаецца яшчэ сапраўдны мастацкі тэкст… Раман Дафны Дзюмар'е «Рэбэка» для мяне амаль што найвышэйшы пілатаж трылера.

**— Як на вашую думку, якое месца займае «Неадпраўленая аповесць» сярод іншых вашых твораў?**

— Наконт гэтага я не задумваўся. Напісалася — як нарадзілася. Якая ж маці сваіх дзяцей па месцах вызначае! Ва ўсім напісаным — твая думка, твая ідэя, тваё імкненне данесці гэтую ідэю да чытача. А якая галоўная? Хто ведае... «Кожны піша, як ён дыша». Дык які ўдых важнейшы за іншыя?

**— Ад твораў для падлеткаў вы прыйшлі да «Праклёну», затым — да гісторыі з забойствамі. Даволі змрочная эвалюцыя, не падаецца?**

— Ну, я яшчэ і жанчын катаваў, жывымі ў сценах кляштара замуроўваў, святароў страляў, школу падпальваў… Кажу шчыра: не ведаю я, не задумваўся над тым, чаму пішу пра тое, пра што пішу. Чаму да аповесці да рамана. Чаму менавіта да такога рамана. Чаму аповесць менавіта на такую тэму. Здавалася б, цяпер, калі маеш пяць дзясяткаў пражытых гадоў, трэба было б жыць спланавана, падпарадкоўваць свае памкненні, жаданні распрацаванай праграме… Не атрымліваецца. Якраз наадварот: раблю тое, што свярбіць, і найперш тое, што свярбіць найбольш. І пішу пра тое, што хвалюе вось цяпер, тут… Проста жыву. Адчуваю. Імкнуся зразумець. І выказаць сваё на паперы.

Гутарыла
**Наста ГРЫШЧУК**

# З верша слова не выкінеш,

## або 105 гадоў Коласаваму «Мужыку»

**Якуб Колас, акрамя зачыну дзвюх вялікіх паэм — «Новая зямля» і «Сымон-музыка», — стварыў у вязніцы шмат вершаў — гучных, пранізлівых, шчырых. Такім быў шырокавядомы верш «Мужык». Аднак мала хто ведае, што змена аднаго слова ў гэтым творы прывяла да трансфармацыі ўсёй ідэі.**


ВОЛЬНАЯ Беларусь
Цэна асобнага № 15 кап.
Умовы надпіскі на 1917 год.
Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захар'еўск. 18.
Умовы друку абвестак:
Газэта палітычная, эканомічная і літэратурная.


*Верш «Мужык» Я. Колас напісаў, знаходзячыся ў Мінскім астрозе, а надрукаваны твор быў 21 снежня 1917 г. у газеце «Вольная Беларусь»; «Якуб Колас у турме», Уладзімір Сулкоўскі.*

«Праблемна-тэматычны дыяпазон астрожных вершаў Якуба Коласа, можа, і не вызначыўся асаблівай шырынёй, але нельга лічыць яго і празмерна вузкім, а матывы — аднастайнымі. <…> І хоць яны («вершы выразна палітычнага гучання») не аказвалі непасрэднага ўплыву на развіццё беларускай літаратуры і фарміраванне грамадскай думкі дарэвалюцыйнага перыяду, *іх трэба разглядаць як факт ідэйна-творчай*, светапогляднай эвалюцыі *Коласа-паэта*» (курсіў наш. — *А. Т.*), — лічыць Міхась Мушынскі, тым самым падкрэсліваючы ролю, якую па-свойму адыграла турма ў духоўным станаўленні будучага класіка, але фактычна адмаўляючы «турэмным» творам паэта ў сацыяльнай пасіянарнасці.

Тым не менш уплыў, пра які тут мяркуе вядомы літаратуразнаўца, быў. І ўплыў значны. Чаго варты толькі верш «Мужык» («Я — мужык, бядак пахілы…»)!.. Гэты твор стаў хрэстаматыйным, а яго заключныя радкі — крылатымі:

*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*Але скора загукаю:*
*«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»*

За савецкім часам гэтыя радкі аналізаваліся ў кантэксце ідэй марксізму-ленінізму, партыйнасці. Сёння марксісцкая метадалогія лічыцца састарэлай. Аднак, па-першае, і такі падыход мае рацыянальнае зерне, якое нельга ігнараваць, тым больш што тэкст ствараўся падчас папулярнасці ў соцыуме марксісцкай дактрыны. Па-другое, верш «Мужык» варты ўвагі і праз призму іншых ідэй, у тым ліку нацыянальна-дэмакратычных, перадусім тых, якія пераважалі ў нашаніўскім асяроддзі. Тым больш што і першапублікацыя твора адбылася толькі 21 снежня 1917 г. (па старым стылі) у выразна нацыянал-дэмакратычнай газеце «Вольная Беларусь» (за тры дні да гэтага быў разагнаны Усебеларускі з'езд, на якім ледзь не нарадзілася — прынамсі фармальна — незалежнасць ці хаця б аўтаномія Беларусі). Прычым апошні радок спачатку выглядаў інакш: «Бомы, хлопчыкі, бяры!».

Такое назіранне зрабіў яшчэ ў савецкі час У. Казбярук, але даследчык (відавочна, з прычын сацыяльна-палітычнай кан'юнктуры) не пайшоў далей канстатацыі, да высноў, якія вынікаюць з заўважанага факта. А гэтае нязначнае адрозненне прынцыпова перайначвае ідэйнае гучанне твора, яго лейтматыў. Бомы служаць абуджэнню, яны — яго сімвал. У нашым выпадку з улікам гістарычнага кантэксту — нацыянальнага. Замена бомаў на стрэльбу надала вершу рэвалюцыйны пафас і зрабіла лірычнага героя твора перш за ўсё прыхільнікам сацыяльных трансфармацый, выключаючы выразны нацыянальна-адраджэнскі кантрапункт. Таму пасля ўсталявання бальшавіцкай дыктатуры пралетарыяту і спатрэбілася такая метамарфоза, што змяняла ў адначассе ідэйнасць твора, збліжаючы яго са стаўшымі афарыстычнымі, але — калі ўдумацца — прымітыўнымі па змесце і архітэктоніцы радкамі дасюль невядомага аўтара, створанымі ў 1922 г., г. зн. пасля Коласавых:

*Наш паровоз, вперед лети!*
*В коммуне остановка.*
*Иного нет у нас пути —*
*В руках у нас винтовка!*

Зрэшты, і гэтыя радкі не былі першымі. Яшчэ ў 1918 г. пясняр бальшавіцкай рэвалюцыі У. Маякоўскі напісаў «Левый марш» з радкамі, што сталі не менш крылатым сімвалам эпохі, — «Ваше слово, товарищ маузер»:

*Разворачивайтесь в марше!*
*Словесной не место кляузе.*
*Тише, ораторы!*
*Ваше*
*слово,*
*товарищ маузер.*
*Довольно жить законом,*
*данным Адамом к Евой.*
*Клячу историю загоним.*
*Левой!*
*Левой!*
*Левой!*

Такім чынам, замена канцэптуальнага, як аказалася, слова ў вершы Якуба Коласа была прадыктавана патрабаваннямі сацыяльна-палітычнага кантэксту, пэўнай «модай», што патрабавала ў мастацкай літаратуры. Так, верш «Мужык у "абноўленым" выглядзе можна лічыць свайго роду тыпалагічнай з'явай, а з гледзішча тагачаснай дактрыны — яшчэ і ідэйна-творчай эвалюцыяй аўтара. Аднак заўважым: метамарфоза адбылася (прынамсі, у друку) толькі ў 1928 г., пры падрыхтоўцы першага Збору твораў Якуба Коласа, калі, па прызнанні яго самога, скончыўся нацыянал-дэмакратычны перыяд яго творчасці (у 1925 г.). А гэта значыць, па-першае, што такую замену можна лічыць рэгламентацыйнай, па-другое, што ёсць падставы падвергнуць сумневу аўтарскае жаданне ўносіць такую праўку.

Аўтары каментарыяў найноўшага Збору твораў Якуба Коласа не звяртаюць асаблівай увагі на замену канцэптуальнага слова, называючы пры гэтым І Беларускі кангрэс «навуковым з'ездам»: «Вершы «Канстытуцыя» і «Мужык», можна меркаваць, невыпадкова змешчаны ў тым нумары газеты і на той старонцы, дзе падаецца матэрыял пра разгон І Беларускага навуковага з'езда, які павінен быў адбыцца 15 снежня 1917 г. На з'ездзе планавалася абмеркаваць наступныя пытанні: Аб тэрытарыяльных межах Беларусі і яе раздзел на раёны; Аб беларускай літаратурнай мове; Галоўныя моманты беларускай гісторыі; Нявыкарыстаныя багацці краю; Зямельнае пытанне; Асвета і школа на Беларусі; Утварэнне новых навуковых пунктаў; Арганізацыя новых навуковых сіл».

Падсумоўваючы сказанае, падкрэслім, што, разглядаючы верш «Мужык», нельга абысціся без гісторыі яго рэдагавання — перакоўкі (праз адно толькі слова!) нацыянальнай ідэі на рэвалюцыйна-сацыялістычную. Варта ўлічваць часы, якія прадыктавалі тую змену, і, зыходзячы з гэтага, праводзіць ідэйна-мастацкі аналіз твора.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

*Нататкі чытача*

# Жыццё не без Надзеі

Нядаўна мяне вельмі парадавалі сябры з Брэста — даслалі новы зборнік паэзіі «Берагі надзеі» берасцейскай паэткі, лаўрэата літаратурнай прэміі імя У. А. Калесніка Надзеі Парчук.

У творчым багажы паэтэсы некалькі зборнікаў, яе вершы з'яўляюцца на старонках абласнога і рэспубліканскага друку.

Прыхільніцай творчасці спадарыні Надзеі я стала ўжо даўно. З першых вершаў паэтэсы адчула родную душу: здаецца, быццам аўтар падслухала мае думкі. Разам з ёю радуюся жыццю і сонцу, разам мы ўзгадваем родныя мясціны, з якімі звязаны самыя дарагія ўспаміны дзяцінства, і так, нягледзячы на вымушанае расстанне, радзіма застаецца са мной.

Паэтэса таксама адчувае моцную сувязь з малой радзімай — вёскай Ладараж, і любоў гэтая ўзаемная. Але немінуча знікаюць з гэтага свету мілыя нам вёскі, пра што паэтэса піша з болем: «Адыходзяць мае землякі, / Сірацее мой Ладараж мілы, / Заціхае мой край гаманкі, / Па-анёльску складаючы крылы…».

Збольшага вершы зборніка аптымістычныя, поўняцца дабрынёй, прасякнуты пачуццём любові да Радзімы і жыцця.

І яшчэ адно нязменна важнае пачуццё пранізае вершы «Берагоў Надзеі», — пачуццё вернасці: мове, людзям, самой любові.

Вершы Надзеі дапамогуць глыбей адчуць і сябе, і ўвесь Сусвет, сваю знітаванасць з усім існым. Чытаеш, па-дзіцячы глядзіш вакол сябе, пераасэнсоўваеш свае пачуцці, непатрэбнае. І разам з аўтарам разумееш: «Прыходзяць людзі да высновы, / Да мудрагелістай такой: / Свет існуе дзеля любові / І выжывае толькі з ёй».

Сапраўды, лягчэй жыць, калі ёсць Надзея.

**Ірына РУДКОЎСКАЯ**

# Баліць душа паэта




Дзмітрый Пятровіч выдаў трэцюю кнігу вершаў «Адзіноты пажоўклыя дні» (Выдавецкі дом «Звязда»). Зборнік мае некалькі раздзелаў: «Пакуль са мной радзіма — я жыву...» (грамадзянская лірыка), «Шумяць асеннія бары» (пейзажная лірыка з намёкам на філасофскую), «Калісьці ўпершыню пабачыў Вас» (лірыка любоўная), «Адзіноты пажоўклыя дні» (агульнае тут — туга і адчуванне безнадзейнасці), «Пакуль баліць душа паэта...» (вершы пра жыццё і смерць, пра мастацтва і адзіноту і г. д., аднак да філасофскай лірыкі іх аднесці я б не рызыкнула: аўтар збольшага канстатуе, а разважае мала).

Так, Дзмітрый Пятровіч працуе ў розных тэматычных кірунках, а часам нават стылёвых: пару разоў ён смела адмовіўся ад рыфмы, і гэта развязала яму рукі: «Помню ўсё: / Крык Пампеяў, / Што заснулі пад попелам гневу / Скамянелых смяротных багоў...». Параўнайце: «Ізноў на ўсходзе чырвань незямная / Туманіцца / у росным аксаміце. / Душа спявае — вечна маладая — / пра васількі ў бяскрайнім спелым жыцэ». Па ўсім відаць, адмовіць у лёгкасці радка і слаўтай пявучасці мовы Дзмітрыю Пятровічу нельга. Калі не звяртаць увагі на мастацкія сродкі і сэнс верша ўвогуле, а толькі слухаць яго, можна атрымаць задавальненне. Часам гэтая моўная плынь выносіць аўтара да адкрыццяў: «...бо у тваіх далонях / Жыццё. / А значыць, шчасця сэрцабой», «начэе туга бліскавіцамі слёз»; іншым разам яна загойвае аўтара, і тады ён не заўважае парадоксаў кшталту «...І спее *ціха* ў небе майскі *гром*».

Калі казаць пра ўплывы, то прасочваюцца, па-першае, журналісцкія матывы (спадар Дзмітрый працуе ў газеце «Звязда»), па-другое, вялікая любоў да Ясеніна, пэўныя водгукі з Багдановіча і Янішчыц. Увогуле, вершы Дзмітрыя Пятровіча вельмі «жаноцкія»: роздум і лагічны складнік выцясняюцца ў ім успамінамі, апісаннямі, самарэфлексіяй.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Багдановіч у стылі нуар

**Гурт «Нельга забыць» прыйшоў да гледача з праграмай на вершы Уладзіміра Караткевіча «Леаніды...» і з першага ж выступу скарыў нямала сэрцаў: папросту немагчыма супрацьстаяць спалучэнню творы Караткевіча + талент музыкаў + харызма Міхала Бараноўскага, лідара гурта.**




Другая праграма «Месца моцы» замацавала ўзятыя з поспехам пазіцыі. І вось — трэці альбом «Mertvets», гэтым разам на вершы Максіма Багдановіча. Але не чакайце пачуць звыкла-лагоднае «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...». Нават урачыстай «Пагоні» не чакайце. Гэта — іншы Багдановіч, і гэта — іншы «НЗ».

Гутарку пра «Mertvetsa» Міхал Бараноўскі пачаў з прызнання: «Чым больш мы займаліся праграмай на вершы Багдановіча, тым больш мацнела адчуванне страху. Калі настолькі паглыбляешся ў тэму смерці, наканавання, усё навокал ператвараецца ў знакі. Таму цяпер хочацца не тое каб... зусім забыць пра гэтую працу, але крыху адцягнуць ад яе ўвагу... Пагружацца ў альбом толькі тады, калі трэба яго паказаць. У гэтым, дарэчы, і заключаецца роля артыста па Станіслаўскім: ужывацца ў ролю — іграць — старацца з ролі выходзіць, па магчымасці спрабаваць сябе ў іншым амплуа. Але пераключыцца даволі цяжка. Дапамагае праца над новай праграмай… Я даволі востра ўспрыняў тое, што адбываецца ў нашых паўднёвых суседзяў. Ёсць імкненне неяк аформіць гэты дэпрэсіўны стан, прадчуванне благога.

І тым не менш, Міхал распавёў пра «Mertvetsa».

— Як аказалася, праграма «Mertvets» у музычным плане светлая. Такой яна і задумвалася. Шлях Багдановіча — шлях перадолення наканавання. Ён вельмі рана, 17-гадовым юнаком, сустрэўся з жорсткасцю лёсу. І калі глянуць на першыя вершы, якія дасылаў у «Нашу Ніву», то былі яны вельмі трагічныя. Чалавек знаходзіўся ў роспачы, скардзіўся, што зусім мала пажыў і нічога не паспеў. Беларуская мова была саломінкай, за якую ён ухапіўся і якая дапамагла яму ўтрымацца на паверхні жыцця пэўны час, дала сілу — калі казаць пафасна. Багдановіч здолеў пераадолець цемру і вусціш. У яго з'яўляюцца іншыя тэмы, вельмі вітальныя, у якіх жыцця нашмат болей, чым у людзей, якія пражылі ўдвая даўжэй. У вершах Багдановіча адчуваецца жыццё, нават у тых, што прысвечаны смерці. Таму і праграма задумвалася як выхад да святла. Багдановіч — добры прыклад: абраўшы дарогу, ён ішоў па ёй да канца. Для моладзі гэта добры матыватар, ці натхняльнік.

Мы так размаўлялі з гурткоўцамі: біцца па-сапраўднаму можна, толькі калі няма чаго губляць.

Калі да нейкага берага прыплыў, спаліў карабель, а далей — па перамогу.

**— Са шчытом ці на шчыце...**

— Так, так. Вось тое галоўнае, што тычыцца праграмы, пасыл, які хацелася данесці... Часта людзей адштурхоўвае назва. Я ж упэўнены на 100 працэнтаў, што менавіта такой яна павінна быць. Адчуванне па завяршэнні гэтай працы вельмі прыемнае, бо ўсё на сваім месцы. Магчыма, не хапіла нейкага досведу для адэкватнага музычнага афармлення, у першую чаргу, я маю на ўвазе, не было студыйнай працы. Але па задуме, канцэпце, увасабленні я працай задаволены. Гэта адчуванне дапамагае загарнуць адну старонку, адну кніжку, пакласці яе на паліцу і ўзяцца за другую. Мы пачалі працаваць над новым матэрыялам, які хутка можна паказваць. Некаторыя песні ўжо выконваем.

**«НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ»**

Андрэй Байбакоў (барабаны, перкусія)
Надзея Працька (скрыпка, вакал, бэк-вакал)
Юлія Мацук (клавішы)
Уладзімір Пыльчанка (клавішныя, акардэон, бэк-вакал, гітара)
Максім Сазонаў (гітара)
Віталь Мурзіч (бас-гітара)
Міхаіл Бараноўскі (вакал, музыка, ідэя)

**— Вы пачыналі з Караткевіча. Потым дадаліся вашыя тэксты, потым — Багдановіча. У гэтым ланцугу ёсць пэўная логіка? Ці вы, напрыклад, звярнуліся да Багдановіча, бо працуеце ў «яго» музеі?**

— Меней за ўсё хацелася б у творчасці нейкай логікі, планавання. Бо, як мне падаецца, усё адбываецца натуральна. Мы сабраліся, каб зрабіць «Леаніды...». Пакуль ішла праца над праграмай, напісаліся ўласныя творы, якія таксама захацелася аформіць. Да іх падштурхоўваў Караткевіч: не сюжэты, але кірунак. Гэта была спроба вызначэння свайго месца ў Беларусі, пэўнай «тутэйшасці». І знянацку «прыйшоў» Багдановіч. Былі такія штудыйныя рамесныя спробы зрабіць нешта па ім, але нічога не атрымалася. Я тады гэтую працу кінуў: навошта вырдурняцца і прыдумваць мёртванароджаныя творы?.. І вельмі нечакана, пасля таго, як мяне перавялі ў «Хатку» (Беларуская хатка — філіял Літаратурнага музея М. Багдановіча. — *Заўв. аўт.*), дзе паэт жыў пэўны час у 1916 годзе, песні і нарыхтоўкі пачалі з'яўляцца самі сабой і аформіліся ў ідэю праграмы. Напісалася ўсё вельмі хутка і, як мне падаецца, нават ірацыянальна.

**— Вы сказалі, што на 100 працэнтаў упэўненыя ў назве. Але, калі паглядзець на тое, што ў аснове альбома — жыццесцвярджальнасць, атрымліваем аксюмаран.**

— У прынцыпе, увесь альбом пабудаваны на кантрасце, спалучэнні чорнага і белага. Вокладка зроблена з фотаздымка Багдановіча, зразумела, чорна-белага. Музыка, прынамсі, вобразы, якія з'яўляюцца падчас выступу, не расфарбаваныя яркімі колерамі. Гэта, калі казаць кіношнымі словамі, нуар, але з дадаткам «сюра», калі кіно чорна-белае, але пэўныя рэчы прамаляваны іншымі колерамі. Прыкладна такая і музыка. Яна шэрая альбо кантрасна чорна-белая — але з яркімі плямамі. Прынамсі, так мы задумвалі рабіць. Не ведаю, як успрымаецца гэта звонку.

**— Якраз хацела запытацца, як рэагуе зала на новую праграму. Вы, напэўна, адчуваеце яе пэўны настрой: радасць, збянтэжанасць, зацікаўленасць?..**

— Напачатку, калі наш гурт толькі з'явіўся, мы вельмі стараліся рабіць музыку па магчымасці імпатыйнай... Кепскае слова... Каб людзі суперажывалі. Каб мы рухаліся разам са слухачом. У пэўным сэнсе праграма «Mertvets» не крок да слухача. І не выклік. Мы паспрабавалі аформіць музыку так, як яна бачылася нам. Гэта крок у сябе, а не да гледача. Таму і ўспрымаецца яна даволі цяжка. Камусьці адразу не падабаецца. Звычайная з'ява. Калі прыхільнік пэўнага аўтара прывыкае да яго стылістыкі, ён звяртаецца да яго, як да пэўнай зоны камфорту. Праграма «Mertvets» — разбурэнне гэтай самай зоны камфорту. Крок насустрач, яшчэ раз падкрэслю, мы не рабілі. Наадварот, нейкія тэмы могуць адмыслова падавацца так, каб чалавек пачуваўся няёмка. Так з песняй, якая называецца «П», дзе верш «Пагоня» спяваецца на матыў «Кацюшы». Зразумела, гэта зроблена не каб паздзекавацца (прынамсі, з гледача), а паказаць тое, на што многім людзям непрыемна глядзець. Парушыць лагоднасць звыклых міфалагем, звязаных з персанажам, ператварэннем чагосьці ў «святарную карову», у якую ніхто насамрэч не верыць. Таму і нядзіўна, што рэакцыя на праграму неадназначная. Розным людзям падабаюцца розныя песні. І гэта, напэўна, самая лепшая адзнака, якую можна нам паставіць, калі нехта кажа: гэтая песня атрымалася, а гэтая — не вельмі, а іншы кажа з дакладнасцю наадварот. Тут ты і разумееш, што ўсё зроблена так, як трэба. Кожны ў пэўны момант не патрапіў у зону камфорту.

Вельмі хацелася б спадзявацца, што гэтая праца не адштурхне слухача, што ён паставіцца з паразуменнем. Кожны, хто займаецца творчасцю, мае права на пошук. Нават больш: гэта, можа, і не абавязак, але нешта падобнае. Калі ты пачынаеш кляпаць адно і тое ж, ператвараешся ў рамесніка. Для нас праграма сталася вельмі вялікім досведам: яна не цалкам акустычная, але электраакустычная, і музыка тут ствараецца па іншых законах.

**— Не было ярка выражанага адмаўлення ці абурэння з боку сталых гледачоў?**

— Магчыма, не ўсе яшчэ дабраліся паслухаць… Людзі ва ўзросце ўспрымаюць праграму якраз вельмі хораша. Можа, таму, што яны больш задумваюцца над тэмай, якая разглядаецца ў праграме. Адна справа — калі табе 18, іншая — калі 60. Ты будзеш часцей звяртацца да думкі, як жывеш, што пакінеш пасля сябе?.. Дарэчы, мы добра разумеем, што сама па сабе тэма з'яўляецца мамантам, які адштурхоўвае аўдыторыю, асабліва маладых людзей. Навошта занурацца ў дэпрэсію, калі лета на вуліцы, калі ў цябе каханне, сябры і ўсё такое?.. Але, зноў жа, калі б мы сачылі за тым, што жадаюць людзі, а не рабілі тое, што падабаецца нам, то гэта быў бы дакладна не «НЗ».




**— Хто працаваў над дызайнам вокладкі?**

— Над дызайнам вокладкі працаваў я. Скажу шчыра, гэта адзін з самых страшных момантаў працы над праграмай. Былі розныя варыянты афармлення. Крэмзанні. Напрыклад, ведаеце, як вучні размалёўваюць партрэты ў школьных падручніках? Скажу шчыра, было вусцішна рабіць гэты размыты твар. Тое, што выклікала самыя страшныя адчуванні, я і пакінуў. Над шрыфтамі і ўвогуле адваротным бокам вокладкі працавалі разам з Віталікам Мурзічам.

Тлумачыць, што мы зрабілі з партрэтам, чаму яго «сапсавалі», не хочацца. Хочацца, каб чалавек сам падумаў: ці ён абараняе «святарную карову», ці хоча за размытымі рысамі пабачыць свайго Багдановіча.

**— Колькі разоў вы ўжо выступілі з новай праграмай?**

— Менавіта з праграмай два. Акрамя таго, яшчэ два — разам з іншымі песнямі…

Увогуле, ідэя гурта на перспектыву — стварэнне пэўнага рэпертуару з праграм. Я не вельмі перажываю, што мы мала яе паказваем — за дзевяць месяцаў чатыры разы. Звычайна гурт іграе новыя песні з канцэрта ў канцэрт, пакуль не прыесца публіцы. Мы пойдзем іншым шляхам. Захаваем усе праграмы, якія прыдумлялі, і пакажам іх на працягу года. У лістападзе будзе Караткевіч, у снежні — Багдановіч. Не спецыяльна на дні народзінаў, не. «Леаніды...» ўвогуле восеньская праграма: кастрычнік-лістапад, мокры снег і ўсякія такія рэчы. «Mertvets» мне ўяўляецца зімовым, хоць там па тэкстах і ёсць летнія вершы. Але гэта зіма. Зараз працуем над новай праграмай. Знойдзем месца і для яе. Ёсць жа і «Месца моцы». Улічыце яшчэ «салянкі». Але ўсё гэта — іншая гісторыя.

**— У праграме «Mertvets» ёсць тэатральныя моманты?**

— Тэатралізацыяй мы пакуль не пераймаліся, гэта дыктуюць і пляцоўкі, дзе мы іграем: звычайна рок-бары, якія для нашых выступаў не вельмі падыходзяць. Гэта ад пэўнай безвыходнасці, бо пляцовак для аўдыторыі 50 — 100 чалавек вельмі мала, добрых, прафесійных канцэртных пляцовак. Раней быў Тэатр рускага раманса, але ён зачыніўся. Як і кожная праграма да гэтага, «Mertvets» мае ўнутраны сюжэт і драматургію. Час ад часу, калі ёсць магчымасць, мы афармляем залу ў адпаведныя колеры і матэрыялы: шэры, белы, чорны, магчыма, чырвоныя плямы. Спецыяльныя пастаноўкі рабіць наўрад ці будзем. Калі з'явіцца магчымасць працаваць з відэашэрагам, магчыма, гэтым зоймемся. Але зараз музычнае палатно нашмат важней. Дэкаратыўныя рэчамі займаецца ў апошнюю чаргу. Гэта, магчыма, таксама няправільна — з пункту гледжання папулярызацыі і камерцыялізацыі, — але і мэты такой не ставілася. Калі зможам прыдумаць годную абгортку да праграм, будзем рабіць, калі не — то…

**—Дзе можна паслухаць вашыя песні, акрамя як у суполцы УКантакце?**

— Песні залітыя на сайт soundcloud.com. Неабавязкова там рэгістравацца: дастаткова зайсці на сайт і набраць назву гурта. На гэтым жа сайце можна запампаваць упадабаныя песні. Даволі зручная платформа, каб прэзентаваць альбом. Песні з «Mertvetsa» там выстаўленыя ў той паслядоўнасці, у якой задумваліся. Гэта таксама вельмі важна — для тых, хто не асобныя песні хоча паслухаць, а паспрабаваць прайсці шлях разам з намі.

**— А што наконт дыска?**

— Дамаўляемся са студыяй. Запісы ў нас на руках, вокладку амаль дарабілі, так што восенню дыск будзе.

**Наста ГРЫШЧУК**

*Прэзентацыя*

# Турыстычная проза

**Прэс-прэзентацыя кнігі Мікалая Чырскага «Мінск і ваколіцы», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь», прайшла ў грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел рэцэнзент кнігі, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, а таксама дырэктар Дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Вадзім Кармазін.**




— З лёгкай рукі Адама Восіпавіча, які нават не папеў напісаць рэцэнзію, мне патэлефанавалі і сказалі, што гатовыя выдаць гэтую кнігу, — прэс-канферэнцыя пачалася з натхнёных слоў аўтара выдання Мікалая Чырскага. — Калі я быў маладым экскурсаводам, мне часта даводзілася бываць у Пецярбургу. Нам паказвалі тоўстыя турыстычныя зборнікі «Ленінград і ваколіцы». Турысты, якія ішлі за мной у Мінску, часта цікавіліся, ці можна набыць кнігу пра тое, што я распавядаю? У нашым жа горадзе такіх кніг не было. Выдавецтвы рыхтуюць у асноўным турыстычныя зборнікі толькі ў фотаздымках. У працэсе працы над кнігай «Мінск і ваколіцы» перад намі стаяла задача апісаць асноўныя месцы, якія запамінаюцца турыстам. Мне здаецца, гэтую задачу мы выканалі.

Новае выданне — адметны зборнік, сабраны з 20 турыстычных маршрутаў Мінска і Міншчыны. Ён дзеліцца на дзве часткі: у першай — 10 маршрутаў у межах нашай сталіцы, другая частка распавядае пра гістарычна значныя мінскія ваколіцы. Аўтар кнігі — прафесійны экскурсавод з велізарным досведам, глыбокімі ведамі не толькі ў межах сваёй прафесіі, але і па гісторыі роднага краю. У працы Мікалаю Арсенцьевічу дапамагаў яго сын, Яўген Чырскі. Адметна, што першае выданне зборніка «Мінск і ваколіцы» пабачыла свет у 2008 годзе ў выдавецтве «Вышэйшая школа», сёлета кніга прыйшла да чытача ў новай рэдакцыі.

Сярод значных мясцін у кнізе згадваюцца такія, як паркмузей валуноў ва Уруччы, музей «Дудуткі», Царква Усіх Святых, верхні горад і Траецкае прадмесце, сядзіба Чапскіх, гарадзішча на Менцы, Ракаў, Івянец, Заслаўе, музейдача Васіля Быкава, «Лагойскі гасцінец» ды іншыя.

— Я хацеў напісаць такую кнігу, каб можна было проста ўзяць яе ў сумку — і паехаць, — кажа аўтар.

Падчас прэзентацыі завязалася кароткая дыскусія з нагоды цяжкасцей пераклады выдавецтвам падобных кніг на польскую, літоўскую, англійскую і іншыя мовы. Да гэтага часу абсалютная большасць турыстаў, якія наведваюць нашу краіну, — гэта расіяне. Таму прыярытэт перакладу аддаецца рускай мове. Аднак усё ж лепш прадаюцца менавіта беларускамоўныя кнігі.

Некалькі турыстычных ідэй выказаў Адам Мальдзіс. Ён прапанаваў адмысловыя маршруты — шлях «з варагаў у грэкі», з пушчы ў пушчу (Белавежская і Налібоцкая пушчы, Бярэзінскі запаведнік), «святы шлях» — ад Браслава, праз Камаі, да Гальшан і Жыровіцкага манастыра, а таксама падарожжа сцяжынамі Адама Міцкевіча.

**Яўген СІНІЧЭНКА**

# Звераняты і правілы бяспекі

Жылі ў казачным лесе звераняты: медзведзяня Тапцыжка, зайчаня Тарапыжка, барсучаня Борка і бабраня Цішка. І былі яны лепшымі сябрамі. Разам гулялі, хадзілі адзін да аднаго ў госці. Аднойчы вельмі закарцела ім знайсці сабе новы займальны занятак. Доўга думалі звераняты, і наведала іх цудоўная думка: пляж! Месца, дзе і пазагараць можна, і ў мяч пагуляць, і, вядома ж, паплаваць! Кінуліся сябры да вадзіцы, забыўшыся на ўсе парады старэйшых, як раптам спыніла іх сава Мудрая галава, якая звычайна за гарэзамі даглядала. Аказалася, што не вельмі добра падрыхтаваны нашы звераняты да розных небяспек і цяжкасцей, якія чакаюць іх на вадзе. І сталі яны вучыцца...




У кнізе Генадзя Аўласенкі даступна і зразумела выкладзены правілы бяспечнага знаходжання на пляжы. У гульнёвай форме дзіця (ды і дарослы!) навучыцца аказваць першую дапамогу пры сонечным ударах і падобным. З выдання можна нават навучыцца тэхніцы плавання і даведацца пра водныя практыкаванні. Вясёлыя, смешныя і сур'ёзныя маленькія гісторыі суправаджаюцца маляўнічымі ілюстрацыямі мастачкі Аксаны Аракчэевай.

Гэтая кніга вучыць маленькіх чытачоў быць заўсёды ўважлівымі, асцярожнымі і ніколі не забывацца правілы, якія аднойчы могуць выратаваць жыццё.

**Вольга СТАРАВОЙТАВА**

*З пошты ЛіМа*

# Лялечная ці прадуктовая?..

Часта бываючы ў Мар'інай Горцы, не забываюся завітаць на рынак. Па дарозе — кнігарня. Назва зразумелая: «Кнігі». І на краме — некалькі пазнак, якія сведчаць пра тое, якую літаратуру тут прадаюць. Зазіраю ў краму чарговы раз. У Мінску з-за штодзённага тлуму не дужа часта ўдаецца завітаць нават у тую кнігарню, што месціцца ля дома. Кнігі — гэта ж не прадукты.

Таму правінцыяльная кнігарня ў Мар'інай Горцы — мае надзеі, маё спадзяванне на сустрэчу з навінкамі беларускіх выдавецтваў. Часцей аказваецца, што спадзяванні марныя. Асартымент кніг беларускіх выдавецтваў у краме зусім бедны, калі не сказаць — ніякі. Раскладка кніг невыразная, можна заблытацца і ў тэматычных, і ў жанравых, і ў іншых падыходах. Дакументальную кнігу «Васіль Корж» публіцыста Мікалая Смірнова я пабачыла сярод кніг, якія распавядаюць пра здаровы лад жыцця. І гэта ў час 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў?! Ведаю, што Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў альбом «Партызанская зброя». Няўжо кніга так хутка разышлася? Былі ж сёлета аддрукаваны і іншыя кнігі на героіка-патрыятычную тэму. Дзе яны? Ці ведаюць пра іх арганізатары кніжнага гандлю ў Мар'інай Горцы?

Вельмі бедна прадстаўленая дзіцячая літаратура. Асабліва на беларускай мове. А колькі ж цікавых кніг выпушчана ў апошнія гады «Мастацкай літаратурай», «Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі», іншымі выдавецтвамі. Дзе яны?

Са старонак газеты «Літаратура і мастацтва» даведваюся пра мноства выданняў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». Чаму ў мар'інагорскай кнігарні няма кніг сучасных беларускіх паэтаў, празаікаў?..

Затое ў краме шырокі асартымент канцылярскіх тавараў: велізарны выбар сшыткаў, лінеек, ручак. Трэба гэта? Канечне, трэба. Затое ў краме шмат цацак. Трэба гэта? Канечне, трэба. Але ж у кнігарні і пра кнігу не забывайцеся. Інакш варта было б шыльду памяняць. Яшчэ лепей: змяніць назву крамы, прыкладам, «Кнігі» на «Прадукты». Выходзіць, толькі пра тое і думаем, які наедак з гэтых кніжак? Мауляў, няхай ужо будзе ў Мар'інай Горцы яшчэ адзін гастраном, яшчэ адна прадуктовая крама... Што ж, калі не дбаць пра выхаванне грамадства, развіццё культуры, то, мусіць, гэтым і варта кіравацца...

А тых магікан, якія яшчэ жывуць спадзяваннем на сустрэчу з цікавай кнігай, трэба адрасаваць як мінімум да Мінска. Ці не так, глыбокапаважаныя арганізатары кніжнага гандлю?..

**Алена ЛАЗОЎСКАЯ, г. Мінск.**

# Лавец жэмчугу

Эдуард Дубянецкі да 2011 года быў вядомы толькі як навуковец, даследчык праблем этнічнай самасвядомасці беларусаў, міжнацыянальных адносін, развіцця беларускай культуры ва ўмовах глабалізацыі. Але ўвесь час Эдуард пісаў вершы, упэўнены, што паэзія — «адна з найвышэйшых галін культуры».

«Душы маёй нясконачны палёт» — так называлася першая кніга аўтара, якая пабачыла свет у 2011 годзе. Сюды ўвайшлі вершы, напісаныя з 1990 па 2011 год. Гэта разважанні пра вечнае, трывога за родны край, часам наіўнасць, але шчырая чысціня і натуральнасць.




Другі ж зборнік «Покліч самотнага неба» можна лічыць не проста працягам папярэдняй працы, але і пэўнага кшталту наватарствам. У прадмове да выдання аўтар заўважыў, што «сапраўдны Паэт — гэта адважны лавец жэмчугу, які нястомна сягае ў акіянскую бездань і выцягвае адтуль бліскучыя перліны паэзіі». Паводле аўтара, большасць з выкарыстаных ім рэдкіх жанраў сёння ўжо фактычна забытыя, а многія выкарыстоўваюцца ў айчыннай паэзіі ўпершыню.

Кніга «Покліч самотнага за неба» складаецца з 6 частак з сімвалічнымі назвамі, якія ўяўляюць творчы эксперымент. Аўтар пераплятае лірычныя матывы з маштабнымі тэмамі вялікага горада і Радзімы: «Ну а ў мега... мегаполіс / вернецца яна ўначы, / каб ізноўку на світанку / стуль пацiху уцячы». Гэта цяжкая праца «канатаходца», які баіцца сарвацца ад рэўнасці, пераважванні яго за родных людзей, зямлю, за вырас, культуру.

У зборніку мноства паэтычных мініяцюр розных інтанацый: «У касмічным / няспынным танцы — / зоры, месяц / і наша зямля ... / і вось так / закружыцца ў тым танцы / ў танцы шчасця / хацеў бы і я...».

**Яўген СІНІЧЭНКА**

# Навінкі кнігавыдання

### Гісторыя Беларусі

**История Беларуси в контексте мировых цивилизаций:** краткий словарь исторических понятий и терминов для студентов всех специальностей / Министерство связи и информатизации Республики Беларусь, Высший государственный колледж связи, Кафедра гуманитарных наук; [составитель А. Н. Бадулин]. — Минск: ВГКС, 2013. — 43 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-7061-18-1.

**Калінкавіцкі летапіс:** [освобождение Калинковичей 14 января 1944 г. в ходе Калинковичско-Мозырской наступательной операции советских войск / составитель В. А. Лякин; предисловие: Віктар Казько]. — Мозырь: Белый Ветер, 2014. — 47 с. — Часть текста на белорусском языке. — 57 экз. — ISBN 978-985-542-436-0.

**Калінкавіцкі летапіс:** [хроника освобождения г. Калинковичи от немецко-фашистских захватчиков в ходе Калинковичско-Мозырской операции советских войск / составители: В. А. Лякин, Н. Б. Михайлова, Л. П. Савицкая]. — Мозырь: Белый Ветер, 2014. — 62 с. — Часть текста на белорусском языке. — 82 экз. — ISBN 978-985-542-470-4.

**Крывуць, В. І.** Барацьба за маладое пакаленне Заходняй Беларусі і праўрадавы маладзёжны рух (1926—1939 гг.): манаграфія / В. І. Крывуць; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт. — Баранавічы: БарДУ, 2013. — 272 с. — 110 экз. — ISBN 978-985-498-537-4 (у пер.).

**Лагерь смерти «Тростенец» в европейской памяти** = Der Vernichtungsort Trostenez in der europäischen Erinnerung: материалы международной конференции, 21—24 марта 2013 г., г. Минск / перевод с немецкого Павла Бельского. — Минск: Лимариус, 2013. — 63 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6968-35-1.

**Латыши и белорусы: вместе сквозь века:** сборник научных статей / [редколлегия: М. Г. Королев, С. П. Кулик, Е. В. Лавриненко]. — Минск: РИВШ, 2014—

Вып. 2. — 2014. — 67 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста параллельно на белорусском и английском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-708-2.

**Лиходедов, В. А.** Путешествие во времени: [краеведческие филокартические сюжеты] / Владимир Лиходедов, Алесь Карлюкевич. — Минск: Звязда, 2013. — 222 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-7083-03-9 (в пер.).

**Могилевская область после Великой Отечественной войны. Восстановление народного хозяйства: октябрь 1943 — декабрь 1946 г.:** документы и материалы / Главное управление юстиции Могилевского областного исполнительного комитета, Государственный архив общественных объединений Могилевской области; [составители: Годун Александр Николаевич, Чемрук Татьяна Васильевна]. — Могилев: АмелияПринт, 2013. — 335 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-6891-28-4 (в пер.).

**Новікаў, С. Я.** Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў / С. Я. Новікаў; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. — Мінск: МДЛУ, 2014. — 299 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 110 экз. — ISBN 978-985-460-579-1.

**Письмена не умеют молчать:** эссе и рассказы: [о деревне Сиротино Шумилинского района / составители: Парасkевин Антон (Улютенко Виктор Васильевич), Лапоухова Рита Аникеевна]. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 150 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-534-051-6 (в пер.).

**Подлипский, А. М.** Славного времени год героический: [о военных событиях, происходивших на территории Витебщины во время Отечественной войны 1812 г.] / Аркадий Подлипский. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 222 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-534-049-3.

**Речица:** дорогой столетий в будущее / [В. М. Лебедева и др.; ответственный редактор И. Г. Сергеев; фото: Е. В. Лугинина, О. С. Никон, М. О. Шеленок]; Речицкий районный исполнительный комитет. — Речица: Рэдакцыя газеты «Дняпровец», 2013. — 407 с. — 1320 экз. — ISBN 978-985-90318-1-6 (в пер.).

**Филипенко, Л. Н.** Исповедь перед внуками: военные мемуары / Л. Н. Филипенко; [составители: С. Л. Гараничева, Е. П. Мовсесян]. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 223 с. — 180 экз. — ISBN 978-985-534-050-9 (в пер.).

**Якутовский, Г. П.** Минск: лучший город планеты, священная столица славян / Григорий Якутовский. — Минск: Энциклопедикс, 2013. — 48 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-82-6.

### Цывілізацыя. Культура. Прагрэс

**Беларуская культура сёння:** гадавы агляд, 2013 / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Інстытут культуры Беларусі»; [укладальнікі: Рэмішэўскі К. І., Галкін А. А.; рэдкалегія: Святлоў Б. У. (старшыня) і інш.]. — Мінск: Інбелкульт, 2014. — 237 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-7045-21-1.

**Бессольнова, Н. В.** Культурология: учебно-методическое пособие: [для студентов] / Н. В. Бессольнова; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Философия, история и политология». — Гомель: БГУТ, 2014. — 21 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-554-309-2.

**Ильин, А. Л.** Очерки истории культуры Пинщины (IX — нач. XX вв.) / А. Л. Ильин, Е. А. Игнатюк. — Пинск: ПолесГУ, 2013. — 220 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-516-269-9.

### Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Андреенко, Н. А.** История об отходах: [для младшего и старшего школьного возраста] / Н. А. Андреенко; [редколлегия: Н. А. Андреенко и др.; иллюстрации Ольги Кузьмич]. — Минск: Альтиора — Живые Краски, 2014. — 24 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7073-28-3.

**Животные:** [для младшего школьного возраста]. — Москва: АСТ, 2014. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078885-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2612-0 (Харвест) (в пер.).

**Закон Божий:** руководство для семьи и школы / составил протоиерей Серафим Слободской. — 3-е изд. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата Московского Патриархата, 2013. — 791 с. — 20000 экз. — ISBN 978-985-511-674-6 (в пер.).

**Кийосаки, Р. Т.** Богатый папа, бедный папа для подростков = Rich dad, poor dad for teens: [финансовые секреты, которым не учат в школе] / Роберт Кийосаки; [перевод с английского выполнила Л. А. Бабук]. — Минск: Попурри, 2013. — 126 с. — 5000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-15-1840-7.

**Могилевская, С. А.** Девочки, книга для вас: [энциклопедия для девочек: для младшего школьного возраста] / Софья Могилевская. — Москва: АСТ, 2014. — 240 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-082728-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2705-9 (Харвест) (в пер.).

**Winx club. Головоломки и тесты № 15:** [для младшего школьного возраста / перевод с итальянского Васильевой Т. А.]. — Москва: АСТ, 2013. — 31 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-081814-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1256-7 (Харвест).



***Маракоў, Л. У. Галоўная вуліца Мінска, 1880—1940 гг. / Леанід Маракоў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012— Кн. 2. — 2013. — 465 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-02-1525-3 (у пер.).***

*Гэтае выданне — працяг грунтоўнага даследавання пісьменніка і энцыклапедыста Леаніда Маракова гісторыі дамоў праспекта Незалежнасці — вуліцы, што цягам існавання мяняла назву больш як дзесяць разоў. Аўтар умоўна дзеліць праспект на 14 кварталаў. У другой кнізе даследуюцца з 6 па 14 кварталы, а таксама друкуюцца дадатак і імянны паказальнік. Выданне багата аздобленае ўнікальнымі фотаздымкамі, дакументамі, планамі, большасць з якіх друкуецца ўпершыню. Можна сцвярджаць, што кніга — гэта не толькі даследаванне адной вуліцы, але і гісторыя людзей, якія жылі тут.*

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

### Англійская літаратура

**Джеймс, Ф. Д.** Смерть эксперта-свидетеля: [роман] / Ф. Д. Джеймс; [перевод с английского И. Бессмертной]. — Москва: АСТ, 2014. — 382 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083270-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2784-4 (Харвест) (в пер.).

**Оруэлл, Д.** Все романы в одном томе: [сборник] / Джордж Оруэлл; [перевод с английского: В. М. Домитеева и др.]. — Москва: АСТ, 2014. — 1117. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Перевод с английского также: Беспалова Л. Г., Голышев В. П., Макиннес К. Д. — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083052-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2783-7 (Харвест) (в пер.).

**Форстер, Э. М.** Говардс-Энд: [роман] / Эдвард Морган Форстер; [перевод с английского Н. М. Жутовской]. — Москва: АСТ, 2014. — 415 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078867-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2795-0 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Айвори, Д.** Спящая красавица: роман / Джудит Айвори; [перевод с английского И. Е. Архиповой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083058-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2763-9 (Харвест) (в пер.).

**Кренц, Д. Э.** Ночь напролет: [роман] / Джейн Энн Кренц; [перевод с английского М. Г. Фетисовой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083679-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2764-6 (Харвест) (в пер.).

**Линдсей, Д.** Раб моих желаний / Джоанна Линдсей; [перевод с английского Т. А. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083435-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2740-0 (Харвест) (в пер.).

**Спаркс, Н.** С первого взгляда: [роман] / Николас Спаркс; [перевод с английского В. Сергеевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-083431-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2768-4 (Харвест) (в пер.).

**Френч, Т.** Рассветная бухта / Тана Френч; [перевод с английского М. Головкина]. — Москва: АСТ, 2014. — 575 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081859-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2790-5 (Харвест) (в пер.).

**Шелвис, Д.** У любви в плену: [роман] / Джилл Шелвис; [перевод с английского Н. А. Ануфриевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 254 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-079435-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2794-3 (Харвест) (в пер.).

### Руская літаратура

**Антонова, Н. Н.** Сон без пробуждения: роман / Наталия Антонова. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 207 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7058-47-1 (в пер.).

**Бенуа, О.** Осенние звезды / Ольга Бенуа, Ирина Мосман. — Минск: Букмастер, 2014. — 383 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-797-5 (в пер.).

**Борисова, В.** Обычные суеверия / Виктория Борисова. — Минск: Букмастер, 2014. — 254 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-824-8 (в пер.).

**Бурносов, Ю. Н.** Армагеддон: [сборник романов] / Юрий Бурносов. — Москва: Этногенез: АСТ, 2014. — 701 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-904454-88-3 (Этногенез). — ISBN 978-5-17-083353-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2711-0 (Харвест) (в пер.).

**Вильмонт, Е. Н.** Трепетный трепач: [роман] / Екатерина Вильмонт. — Москва: АСТ, 2013. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-077912-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2707-3 (Харвест).

**Врублевская, Г.** Карьеристки / Галина Врублевская. — Минск: Букмастер, 2014. — 252 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-773-9 (в пер.).

**Грановская, Т.** Какого цвета ъ: стихотворения / Таша Грановская. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 161 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-78-2 (в пер.).

**Иванов, А. С.** Тени исчезают в полдень: [роман] / Анатолий Степанович Иванов. — Москва: АСТ, 2013. — 702 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083807-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2761-5 (Харвест) (в пер.).

**Калебин, П.** Настоящие деньги / Павел Калебин. — Минск: Букмастер, 2014. — 349 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-885-9 (в пер.).

**Ковалева, В. С.** Дерево Марты и другие сказки о любви / Вера Ковалева; [иллюстрации Екатерины Бауман]. — Москва: АСТ, 2014. — 188 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082672-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2756-1 (Харвест) (в пер.).

**Мадунц, А.** Дело о потерянных пуантах / Александра Мадунц. — Москва: АСТ, 2014. — 346 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081884-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2689-2 (Харвест) (в пер.).

**Радзинский, Э. С.** Титаны и тираны: [сборник] / Эдвард Радзинский. — Москва: АСТ, 2014. — 859 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079825-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2176-7 (Харвест) (в пер.).

**Раневская, Ф. Г.** Самые остроумные афоризмы и цитаты / Фаина Раневская; [редактор-составитель Асель Омар]. — Москва: АСТ, 2013. — 158 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-078702-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2765-3 (Харвест) (в пер.).

**Стругацкий, А. Н.** Понедельник начинается в субботу: [фантастический роман] / Аркадий и Борис Стругацкие. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Terra Fantastica, 2014. — 283 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-057849-8 (АСТ). — ISBN 978-5-7921-0781-6 (Terra Fantastica). — ISBN 978-985-18-2741-7 (Харвест) (в пер.).

**Стругацкий, А. Н.** Трудно быть богом: [фантастическая повесть] / Аркадий Стругацкий, Борис Стругацкий. — Москва: АСТ, 2014. — 218 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084338-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2845-2 (Харвест) (в пер.).

**Томас, Р.** Шико и Генрих: пьеса в 2 ч. / Рита Томас; [иллюстрации автора]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 46 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-83-6.

**Филатов, Л. А.** Про Федота-стрельца, удалого молодца: первое полностью иллюстрированное издание / Леонид Филатов; иллюстрации Е. Глейзер. — Москва: АСТ, 2013. — 110 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-082860-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2613-7 (Харвест) (в пер.).



***Песецкий, С. М. Любовник Большой Медведицы: [автобиографический] роман / Сергей Песецкий; перевод с польского [В. Л. Авиловой, Д. С. Могилевцева]. — Минск: ИПА «Регистр», 2014. — 362 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6937-91-3 (в пер.).***

*Выхаду гэтай кнігі ў нашай краіне чакалі многія чытачы — аматары творчасці Сяргея Пясецкага. Пераклад рамана на беларускую мову, што выходзіў колькі гадоў таму, разышоўся надзвычай хутка, але вялікага чытацкага попыту невялікі наклад кнігі не задаволіў. Літаратурны дэбют Пясецкага — вязня польскай турмы, кантрабандыста і супрацоўніка трох разведак — прынёс аўтару не толькі перамогу ў польскім конкурсе, але і міжнароднае прызнанне. Падзеі кнігі адбываюцца ў даваенным Ракаве, акурат на мяжы Заходняй Беларусі і БССР.*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Азарина, Л.** Чужие дочери: повесть / Лидия Азарина. — Минск: ИПА «Регистр», 2014. — 191 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-6937-90-6 (в пер.).

**Андреевец, Г. Н.** Идущий на грозу: документальная повесть [о выдающемся белорусском энергетике П. С. Силиче] / Григорий Андреевец. — Гомель: Полеспечать, 2013. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7012-36-7 (в пер.).

**Аффи, И. А.** Минск — Бейрут — неизвестность: роман / Ирина Аффи. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 247 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-58-7 (в пер.).

**Бадак, А.** Побег на край дождя: проза и поэзия в избранных переводах / Алесь Бадак; [вступительная статья Наума Гальперовича]. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 291 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-51-8 (в пер.).

**Варламов, В. Б.** Мужество: [сборник] / Вячеслав Варламов. — Минск: Мир счастливой семьи, 2014. — 226 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7011-04-9 (в пер.).

**Витьбич, А.** Оттенки жизни: сборник стихов / Александр Витьбич. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 103 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-82-9.

**Гуринович, А. Ф.** Разговор с другом: сборник стихотворений / Александр Гуринович. — Минск: Полиграфиздат, 2013. — 63 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6990-09-3.

**Гуринович, А. Ф.** Солдат: сборник стихотворений / Александр Гуринович. — Минск: Полиграфиздат, 2013. — 32 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6990-11-6.

**Гуринович, А. Ф.** Что такое любовь: сборник стихотворений / Александр Гуринович. — Минск: Полиграфиздат, 2013. — 92 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6990-10-9.

**Ильинский, Н. И.** Ошибка Мономаха: роман / Н. И. Ильинский. — Минск: Беларусь, 2014. — 638 с. — 2200 экз. — ISBN 978-985-01-1072-5 (в пер.).

**Кацнельсон, Л. И.** Васильковая музыка: стихотворения / Людмила Кацнельсон. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 78 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7062-59-1.

**Костюкевич, А. В.** Ирландия навсегда: поэзия / Анастасия Костюкевич. — Минск: Галіяфы, 2014. — 134 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-21-5.

**Кулешова, О.** Утро нового дня: лирика / Ольга Кулешова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 94 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7062-86-7 (в пер.).

**Лешко, Ю.** Лица счастья. Имена любви: проза / Юлия Лешко. — Минск: ИПА «Регистр», 2014. — 206 с. — 1120 экз. — ISBN 978-985-6937-74-6.

**Лознюха, Т. П.** Осенняя симфония: стихи / Тамара Лознюха. — Брест: Альтернатива, 2013. — 159 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-397-1.

**Манейкин, С. В.** Петербургские приключения; Почему?; Тебе, отважная Немига: стихи / Сергей Манейкин. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 151 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-76-8 (в пер.).

**Подкатик, Е.** Точка: повесть / Елена Подкатик. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 151 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-65-5.

**Рубинштейн, Л. А.** Родник жизни: стихи, песни / Леонид Рубинштейн. — Минск: Медисонт, 2014. — 159 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7085-20-0.

**Сендер, А. Н.** На кудыкину гору: [стихи] / Анатолий Сендер. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 271 с. — 15 экз. — ISBN 978-985-7062-67-6 (в пер.).

**Сиволобова, Л. А.** Повести и рассказы: проза / Людмила Сиволобова; [уступны артыкул Вінарская І.]. — Минск: Галіяфы, 2014. — 107 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7021-02-4.

**Соловьева, Н. Ф.** На перекрестке звезд и судеб: лирика / Наталья Соловьева. — Минск: Медисонт, 2013. — 213 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-7085-14-9.

**Сульянов, А. К.** Берия. Арестовать в Кремле: [роман] / Анатолий Сульянов. — Москва: АСТ, 2013. — 478 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080222-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2731-8 (Харвест) (в пер.).

**Татаринов, Ю. А.** Завещание князя Гедимина: [сборник исторической прозы] / Юрий Татаринов. — Минск: ИПА «Регистр», 2014. — 269 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6937-93-7 (в пер.).

**Факин, Д.** Совершенная азбука: стихи / Ден Факин. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 35 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-85-0 (в пер.).

**Шагова, Т. А.** Избранное: [стихи и проза] / Татьяна Шагова (Акулова). — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 131 с. — Часть текста на английском, белорусском и французском языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-73-7 (в пер.).

**Шашко-Шаблинская, С. Л.** Две души — два сердца: стихи / С. Л. Шашко-Шаблинская. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 111 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-75-1 (в пер.).

**Ясминска, Н.** Сборник цитат для влюбленных в книги / Надея Ясминска. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 30 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-45-4.

**Яськова, Л. А.** Колокола души...: стихи, переводы / Людмила Яськова. — Минск: Кнігазбор, 2013. — 111 с. — 115 экз. — ISBN 978-985-7089-22-2 (в пер.).

**Oroboro:** сборник стихов и прозы / [составитель Ольга Равченко]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 847 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-54-6 (в пер.).

### Беларуская літаратура

**Беланожка, А. М.** Чамадан з кракадзілавай скуры: аповесць / Алёна Беланожка. — Мінск: Звязда, 2014. — 173 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-17-6 (у пер.).

**Бярэзіна, Т. І.** Карані і галіны: вершы, проза / Тамара Бярэзіна; [прадмова Міхася Казлоўскага]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 115 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-25-3 (у пер.).

**Гапееў, В.** Праклён: раман / Валер Гапееў. — Мінск: Галіяфы, 2013. — 542 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7021-17-8.

**Жанчак, Б. І.** Хлеб веры: кніга паралеляў / Барыс Жанчак. — Мінск: МІНАР, 2014. — 79 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-90268-6-7.

**Кавалеўскі, А. М.** АКРЫ: візуальна-паэтычны праект / Арцём Кавалеўскі, Руслан Найдзен; [ілюстрацыі: Р. М. Найдзен]. — Мінск: Артыя Груп, 2013. — 34 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6893-54-7.

**Колас, Я.** Новая зямля: паэма / Якуб Колас; [прадмова Адама Мальдзіса]; з ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 483 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-02-1531-4 (у пер.).

**Малахоўскі, Р. Ю.** Жыві!: вершы / Рагнед Малахоўскі. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 55 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7058-43-3.

**Оаро, К.** Сарочае радыё: лісты падзякі: аповесць / Кацярына Оаро. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 91 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-26-0. — ISBN 978-9857089-26-0 (памылк.).

**Параходзік сучаснасці:** зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка (2012—2013) / [рэдакцыйная рада: Павел Анціпаў і інш.; укладальнік Алена Казлова]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 129 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-23-9.

**Рыбік, Н. А.** Скрыжаванні: кніга прозы / Ніна Рыбік. — Мінск: Звязда, 2013. — 188 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-14-5 (у пер.).

**Ткачоў, В. Ю.** Варона: кніга прозы / Васіль Ткачоў. — Гомель: Барк, 2013. — 275 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-7065-03-5 (у пер.).

**Чарняўскі, М.** На плошчы памяці маёй: вершы, паэмы, балады / Мікола Чарняўскі. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 126 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-54-9.

**Шакун, М. А.** Жыццёвае поле: вершы / Марыя Шакун; [уступнае слова В. А. Шніпа]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 131 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-63-1 (у пер.).

**Шніп, В. А.** Тутэйшая туга: паэзія і проза / Віктар Шніп. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 200 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-61-7.

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Барто, А. Л.** Любимые стихи: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / А. Барто. — Москва: АСТ, 2013. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-073571-6 (АСТ). — ISBN 978-985-16-9742-3 (Харвест) (в пер.).




***Анталогія латвійскай паэзіі: [вершы]. — Мінск: Галіяфы, 2013. — 131 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7021-18-5.***

*Ці знаёмыя вам імёны Оярса Вацыеціса, Юрыса Кунаса, Марыса Салейса? Думаю, што не. Ці здольныя вы без падрыхтоўкі назваць хаця б двух-трох сучасных латышскіх аўтараў? Думаю, таксама не. Ці ведаеце, пра што пішуць сёння паэты ў Рызе? Упэўненая, што не. Таму гэтая невялічкая паэтычная анталогія мусіць стаць для беларускага чытача адкрыццём вялікага мора латвійскай паэзіі XX і пачатку XXI ст. Пад вокладкай выдання сабраныя падборкі паэтычных твораў дзесяці латвійскіх паэтаў, якія не проста пазнаёмяць з творчымі індывідуальнасцямі аўтараў, але і распавядуць пра агульны стан паэзіі ў Латвіі.*

**Большая хрестоматия:** для 1—4-х классов: [произведения школьной программы]. — Москва: АСТ, 2013. — 270 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080013-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2609-0 (Харвест) (в пер.).

**Волков, А. М.** Волшебник Изумрудного города: [сборник: для младшего школьного возраста] / А. Волков; художник Леонид Владимирский. — Москва: АСТ, 2013. — 991 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-065134-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1457-8 (Харвест) (в пер.).

**Волков, А. М.** Желтый туман: [сказочная повесть: для младшего школьного возраста] / А. Волков; художник Леонид Владимирский. — Москва: АСТ, 2014. — 254 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077419-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2782-0 (Харвест) (в пер.).

**Волцит, П. М.** Необыкновенные истории о самом лучшем папе на свете: [для младшего и среднего школьного возраста] / П. Волцит; художник Е. И. Чудновская. — Москва: АСТ, 2013. — 109 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083001-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2710-3 (Харвест) (в пер.).

**Гайдар, А. П.** Чук и Гек: повести, рассказы: [для среднего школьного возраста] / Аркадий Гайдар; [художник Г. Мазурин]. — Москва: АСТ, 2014. — 189 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-071429-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2787-5 (Харвест) (в пер.).

**Гайдар, А. П.** Чук и Гек: повести, рассказы: [для среднего школьного возраста] / Аркадий Гайдар; [художник Г. Мазурин]. — Москва: АСТ, 2014. — 189 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-054591-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2788-2 (Харвест) (в пер.).




*Выбраныя творы: Лідзія Арабей; прадм. Л. Савік. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 608 с. Выдадзена пры ўдзеле ТАА «Харвест».*

# Алаіза Пашкевіч і дарогі вайны

Кніга выбраных твораў Лідзіі Арабей складаецца з аповесцей «На другой зіме вайны», «Халодны май», «Горкія ягады», апавяданняў і абразкоў, дакументальнай аповесці «Стану песняй», прысвечанай жыццю і творчасці Алаізы Пашкевіч. Верагодна, дакументальная аповесць зацікавіць чытача ў першую чаргу: інфарматыўнасць тэксту спалучаецца з экспрэсіўнасцю выкладу, твор мае ўдалую, добра прадуманую кампазіцыю.

Расповеды пра людзей, якія добра ведалі Цётку, зварот да яе літаратурных твораў, вытрымкі з архіўных дакументаў, гістарычны кантэкст — усё гэта Л. Арабей спалучае суладна і сувымерна. Пасля кароткай прадмовы пісьменніца распавядае пра знаёмства з малодшай сястрой Цёткі — Каралінай Пашкевіч, якая жыла ў невялікай польскай вёсачцы Франін. Сустрэчы з сябрамі і сваякамі знакамітай Цёткі былі яшчэ магчымымі ў 1974, 1976 гг. З нагоды адной такой падзеі Л. Арабей адзначае: «І трэба сказаць, што мы мала шукаем, а таму шмат страчвае гісторыя нашай літаратуры, а галоўнае — мы абыходзім людзей, памяць якіх — неацэнны скарб, гэтыя людзі адзін за адным пакідаюць жыццё, бо такі няўмольны закон яго, і забіраюць з сабою тое, што не паспелі перадаць нам, бо мы гэтым не пацікавіліся». Сама пісьменніца, відавочна, была мэтанакіраваным і дбайным даследчыкам: некаторыя факты з жыцця А. Пашкевіч выяўлены ёю ўпершыню (адзначым, напрыклад, падарожжа ў Італію ў 1908 г., здзейсненае паэтэсай разам з Юліяй Білюнене і мастаком Станейкам).

Вобраз А. Пашкевіч натхняе: галоўная гераіня паўстае смелай, энергічнай, настойлівай, чулай, крыху рамантычнай. Але побач з пафасам рэвалюцыі і захапленнем вядомай паэтэсай адчуваецца і смутак: «Восенню 1939 года вывезлі ў Сібір брата Войцаха, сястру Стэфанію. Войцах там і загінуў». Менавіта на кватэры малодшых братоў — афіцэраў царскай арміі Юзіка і Войцаха — Цётка жыла ў Вільні напярэдадні рэвалюцыі, тут хавала шапірограф, ладзіла палітычныя сходкі. Яе творчасць і грамадская дзейнасць былі прысвечаны барацьбе за справядлівасць — але ахвярамі рэпрэсій сталі многія блізкія і знаёмыя людзі, не толькі сваякі, але і Б. Эпімах-Шыпіла, М. Гарэцкі, Б. Тарашкевіч. Л. Арабей канстатуе ў аповесці шэраг праблемных момантаў, а аб'ектыўнае адлюстраванне грамадскіх з'яў робіць магчымымі ўласныя супастаўленні.

Пісьменніца падрабязна распавядае пра галоўныя акалічнасці жыцця А. Пашкевіч, многія з якіх застаюцца менш вядомымі за яе літаратурную працу і ўдзел у палітычных справах. Тут і «універсітэцкая адысея» ў Львове, і лёс выдадзеных Цёткай паэтычных зборнікаў, і захапленне тэатрам ды выяўленчым мастацтвам. Л. Арабей знаёміць чытача са многімі людзьмі, стасункі з якімі былі важныя для яе гераіні: Пётр Лесгафт, Іларыён Свянціцкі, Алесь Бурбіс, Карусь Каганец… Падзеі асабістага жыцця А. Пашкевіч, змены настрою і поглядаў часта звязваюцца з яе творчасцю — і многія заўвагі Л. Арабей падаюцца важнымі і слушнымі. Створаны з натхненнем грунтоўны жыццяпіс вядомай паэткі прывабіць чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй і літаратурай пачатку ХХ ст., і нават школьнікі пазнаёмяцца з ім з задавальненнем!

Сярод іншых твораў, змешчаных у кнізе, варта адзначыць аповесць «На другой зіме вайны». Л. Арабей нарадзілася ў 1925 годзе, у час Вялікай Айчыннай вайны жыла на акупаванай Беларусі, і героямі яе твора сталі персанажы, звычайна другасныя для пісьменнікаў-мужчын — былых франтавікоў і партызан. Гэта і дзяўчына, якая па заснежанай шашы ідзе мяняць матчыны рэчы на сала, і спрацаваная вясковая кабета, у якой сядзяць на печы прыпалоханыя, ціхія дзеці. У час вайны дбаць пра жыццё блізкіх людзей не прасцей, чым змагацца супраць ворагаў. Накарміць і дагледзець малечу, трапіць з горада ў наблізкую вёску — вялікая справа для знясіленых, згаладалых людзей, безабаронных перад узброенымі вайскоўцамі. Для Л. Арабей уласцівая ўвага да побытавых дэталей — і ў аповесці «На другой зіме вайны» яны патрэбны, каб выявіць няпростую долю жанчыны, якая адчувае адказнасць за сваю сям'ю.

«Выбраныя творы» Лідзіі Арабей — гэта розныя героі і жыццёвыя сюжэты, розныя эпохі і праблемы. І погляд на іх беларускай пісьменніцы — чалавека цвёрдых перакананняў, якому выпаў доўгі зямны шлях, — далучае да вялікіх «скарбаў памяці».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



# Сила слов




Ни один народ не может существовать без языка. Но грамотно владеют им, к сожалению, далеко не все. Когда человек пишет, «бросаясь» грубыми и глупыми ошибками, и при этом хвастает, что изучает три зарубежных языка, — ничего, кроме скептической улыбки, он не заслужит. Ведь прежде чем гнаться за иностранными знаниями, стоит задуматься о чистоте родной речи.

Блестящий учёный, лексикограф, социолингвист и просветитель Сергей Ожегов как никто разбирался в науке слов. Новая, исправленная и дополненная, версия его «Толкового словаря русского языка» вышла в 2013 году силами трёх издательств: «АСТ», «Мир и Образование», «Харвест». Книга, сохранившая классическую структуру и стиль легендарного предшественника, получила «второе дыхание» благодаря труду не менее талантливого человека — редактора, автора более четырёхсот публикаций и 20 книг, доктора филологических наук, профессора Льва Скворцова.

Сборник включает около 100 000 слов, научных терминов, фразеологических сочетаний. В нём можно найти множество уникальных диалектизмов, архаизмов и неологизмов.

Главная особенность этого, уже 26-го по счёту, переиздания в том, что оно отражает не только историю целой эпохи, но и современность сквозь призму новых слов и выражений. Книга акцентирует внимание на изменениях в жизни людей за последние полвека, учитывая успехи в науке, технике, культуре, политике. Благодаря дополнениям чётко прослеживаются изменения в словарном составе русского литературного языка последних десятилетий, а вместе с тем — в мышлении и образе жизни его носителей.

Очень важно, что из текста современного словаря исчезли устаревшие слова-идеологемы, вышедшие из активного употребления, а также термины, носящие архаический или слишком узкоспециальный характер. Вывод очевиден: труд Сергея Ожегова даже в нынешних условиях не лишился актуальности.

Кроме исчерпывающего толкования, после каждого слова даются примеры его грамотного употребления в речи, объясняется произношение, раскрываются фразеологические и словообразовательные возможности, а также стилистические особенности.

Словарные статьи построены максимально удобно и доступно, ведь книга рассчитана на самую разную аудиторию: от экспертов в области науки до студентов и школьников.

**Мария ВОЙТИК**

# Царство чудес на опушке леса

Сложно найти книгу, выполненную достойно в давней стилистике, тем более детскую. Разве что заглянуть в десяток антикварных или букинистических магазинов, потратив не один час. Но решить проблему можно гораздо быстрее и проще. «Родные сказки», вышедшие в «Издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», напоминают один из раритетных экземпляров прошлого. Какие бы новые истории ни придумывали детские авторы в погоне за модой на компьютерных существ, роботов или вампиров, «реки» всех сказочных сюжетов впадают в «океан» традиционного фольклора.

«В некотором царстве, в некотором государстве…», «Ловись, рыбка, большая и маленькая!» — кому из взрослых не знакомы эти выражения, от которых душу охватывает приятная волна ностальгии?




«Родные сказки» привлекают простотой и незамысловатостью историй, знакомых и любимых детьми разных поколений на протяжении уже многих лет. Стоит заглянуть в книгу, как сразу же окажешься в водовороте старых добрых приключений. Вот находчивый Иван-царевич спасает неземную красавицу Марью Моревну из лап коварного Кощея Бессмертного, а вот проворная лисичка пытается обхитрить простофилю волка. Можно перечитывать всё это сотни раз, эмоции остаются те же — восхищение мастерством народных авторов.

В издание вошли также произведения Александра Пушкина и Петра Сухотина. Составители сборника, судя по всему, стремились показать яркость и разнообразие палитры сказочных жанров. Поэтому включили в книгу не только волшебные, бытовые, но и сказки о животных.

Несмотря на большой формат, в издании не так много текста — всего восемь сказок. Зато каждая страница украшена колоритным народным орнаментом и классическими иллюстрациями в лучших традициях русской книжной графики. Зачем это малышам? Разве они отличат великих мастеров от начинающих художников? Поверьте, дети умеют видеть прекрасное ещё лучше, чем некоторые взрослые, пусть и не до конца его объясняя.

Ценность этих сказок ещё и в том, что все они — поучительны. Маленькие читатели, внимательно проследив за поступками героев, поймут, что смелость, отзывчивость, щедрость, умение любить делают человека счастливым. Эти знания им обязательно пригодятся!

**Тамара ГУЛЕНКО**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Дакрануцца да міфа

Для многіх з нас пачатак восені заўсёды будзе асацыіравацца з класічнай тэмай сачыненняў усіх школьнікаў "Як я правёў лета". Я сваё «правяла» выдатна. І куды ні заносілі б мяне падарожжы, я заўсёды знайду літаратурныя сцежкі. На гэты раз сэрца і розум прывялі на поўнач Італіі.

Альпійскія азёры неверагоднай прыгажосці, батанічныя сады, напоўненыя кветкамі, велізарны мегаполіс Мілан і сціплая па памерах, але казачна чароўная Навара, першы камень пры заснаванні якой быў закладзены яшчэ вялікім Цэзарам. А яшчэ — Верона. Складана ўтрымацца перад спакусай прайсціся па вуліцах горада самай вялікай гісторыі кахання. Апроч самога дома Джульеты, Верона гатовая раскрыць перад дапытлівымі турыстамі месца яе пахавання, а таксама вывесці на Via delle Arche Scaligeri — вуліцу, дзе жыў Рамэа.

Але давайце пакінем убаку справы сардэчныя і пагаворым пра феномен літаратурных гісторый. Не сакрэт, што выдатны англійскі драматург у якасці асновы свайго паэтычнага гімна каханню ўзяў творы іншых літаратараў. Можна папракнуць яго за парушэнне аўтарскіх правоў, але пры гэтым нявартa забывацца, што сюжэты сусветнай літаратуры разнастайныя не да бясконцасці.

Прасочым шлях «Рамэа і Джульеты» ад пачатку. Лічыцца, што ўпершыню сюжэт пра няшчаснае каханне падлеткаў з'явіўся яшчэ ў паэме Авідзія, напісанай у І стагоддзі н.э. Далей сляды падобнай драмы знаходзім у літаратуры XV ст., у навеле Мазуча Салернітана. Праз некалькі дзесяцігоддзяў ужо Луіджы Да Порта, абапіраючыся на твор папярэдніка, а таксама на некаторыя гістарычныя хронікі, апісвае сваю версію трагічнага кахання двух маладых людзей. Пасля, да канца XVI ст., з'яўляюцца навела Матэа Бандэла і паэма Артура Брука. І толькі ў 1594-1595 гадах пяро Шэкспіра нараджае той самы шэдэўр, якім свет захапляецца ўжо больш за чатыры стагоддзі. Не буду спрачацца, магчыма, паэтычныя радкі яго папярэднікаў былі не менш бліскучымі, але…

Ды справа нават не ў тым, наколькі вялікі і вечны Шэкспір. Важна тое, што ён быў англічанін, а яго героі жылі пад гарачым сонцам Італіі. І невядома, ці адбывалася гэтая гісторыя менавіта на вуліцах слаўнай Вероны. Зрэшты, некаторыя даследчыкі сумняюцца ў тым, ці быў рэальны сам Шэкспір. Містыфікацыя на містыфікацыі, таямніца на таямніцы! Тым не менш літаратурныя гісторыі і загадкі штогод прываблiваюць у Італію бясконцыя плыні турыстаў. П'еса Шэкспіра — далёка не адзіны выпадак, калі прыдуманыя героі становяцца аб'ектам турыстычнага паломніцтва. Дом Холмса ў Лондане, музей д'Артаньяна ў Люпіяку, статуя Русалачкі ў Капенгагене, помнік музычнай кампаніі звяроў у Брэмене. Спіс не такі малы.

А ці можам мы выкарыстоўваць сваю літаратуру гэткім жа чынам?..

## 100 гадоў кнізе

# «Кажуць, што ты злы, і я веру…»

**Імя гэтага паэта шырока вядомае ў ЗША дзякуючы таму, што ён тройчы стаў лаўрэатам Пулітцэраўскай прэміі, лічыўся голасам цэлага пакалення, а таксама быў добрым сябрам прыгажуні Мэрылін Манро. Мы ж згадаем Карла Сэндберга з нагоды 100-годдзя з часу публікацыі яго выдатнага цыкла *Chicago Poems*. Першая кніга вершаў маладога паэта выйшла ў 1904 годзе, аднак сапраўднае прызнанне прыйшло толькі ў 1914-м, калі яго падборка з'явілася на старонках уплывовага выдання «Паэзія. Часопіс вершаў» (*Poetry. A Magazine of Verse*). Можна лічыць, што менавіта з гэтых дзевяці твораў пачалася вялікая дарога вялікага творцы.**

Карл Сэндберг, сын беднага эмігранта са Швецыі, пераехаў у Чыкага ў 1912 годзе. Тут ён пачаў працаваць рэпарцёрам у выданнях *Chicago Daily News* і *Chicago Book*. У той час горад вельмі хутка развіваўся, ён, як і сёння, быў ключавым фінансавым цэнтрам для сельскагаспадарчага рынку, меў вялікі чыгуначны вузел і з'яўляўся важным цэнтрам упакоўкі мяса. Натуральна, гэтыя рысы адбіваліся і на гарадскіх краявідах, і на характары заняткаў мясцовых жыхароў. Паэт, зацважце, не кніжнік, а працаўнік розных сфер (праз беднасць сям'і ён вымушаны быў працаваць ужо ў падлеткавым узросце), не мог прайсці міма такой яркай і адметнай вобразнасці і не скласці прысвячэнне гораду.

Верш «Чыкага», які даў загаловак спачатку падборцы ў часопісе, а потым і цэлай паэтычнай кнізе (выйшла ў 1916 годзе), па словах самога аўтара, быў «выклікам, які Чыкага робіць Нью-Ёрку, Бостану, Філадэльфіі, Лондану, Парыжу, Берліну і Рыму. Гэты верш нібыта кажа: "Можа, у нас няма культурнага жыцця, але мы харчуемся рэгулярна"». Паэт звяртае ўвагу не толькі на негатыўныя бакі гарадскога жыцця, але паказвае іх поруч з пазітыўнымі: без вялікага зла не было б вялікага дабра, карысці мясцовым жыхарам.

Акцэнт на дваістасці горада як з'явы — важны крок у паэтычным урбанізме. Звычай паэты ідуць іншым шляхам: цалкам захапляюцца гарадской рэчаіснасцю, радуюцца дасягненням тэхнікі і прамысловасці, вітаюць гарадскі лад жыцця ці, наадварот, адмаўляюць эстэтыку горада і імкнуцца да жыцця ў вёсцы, сярод прыгожых краявідаў. У вершы «Чыкага» Карл Сэндберг піша:

*Мне кажуць што ты сапсаваны*
*і я адказваю: Так, гэта праўда я бачыў*
*як злачынца забівае і застаецца*
*на волі каб забіваць зноў.*
*Мне кажуць што ты жорсткі і мой*
*адказ: На тварах жанчын і дзяцей*
*я пабачыў адзнакі бессэнсоўнага голаду.*

Але паэт не засяроджваецца адно на негатыўных з'явах жыцця ў Чыкага, ён зазначае:

*Ідзіце і пакажыце мне іншы горад*
*які з узнятай галавой спявае*
*бо ён горды што жывы і грубы*
*і моцны і хітры.*

Пры гэтым аўтар не адмаўляе прыгажосці краявідаў прыроды, наадварот — супрацьпастаўляе іх шэрасці гарадскога пейзажу. Так, у вершы «Прыстань» лірычны герой, стаміўшыся ад шэрай рэчаіснасці прамысловага цэнтра, праходзіць уздоўж «агідных сцен», сустракае «жанчын з вачыма, запалымі ад голаду» і раптам бачыць «*на ўскрайку горада, / Блакітны выбух возера, / Доўгія хвалі возера разбіваюцца на сонцы*». Гэтая яскравая апазіцыя «шэры горад — яркае блакітнае возера» дае аўтару магчымасць яшчэ раз падкрэсліць думку, што ў горадзе, каб выжыць, патрэбна цяжка працаваць — менавіта сярод шэрых сцен і з такімі ж, як ты, галоднымі людзьмі, а на ўзбярэжжы возера лепш адпачываць — любавацца прыгожымі хвалямі, чайкамі, крыху зайздросціць вольнасці іх палёту.

Зрэшты, нельга сцвярджаць, што адно выпадак, час і наватарскія падыходы ў выяўленні пачуццяў дапамаглі маладому паэту стаць адной з ключавых фігур літаратурнага жыцця ЗША пачатку ХХ ст. Варта падкрэсліць і ролю выдання, у якім былі апублікаваныя «Вершы пра Чыкага». «Паэзія», гэты «маленькі часопіс», меў значны ўплыў на густы чытача, а асоба галоўнага рэдактара — паэткі, літаратурнага крытыка Гарыет Манро лічылася




Зборнік вершаў Карла Сэндберга Chicago Poems (1916).

моцным аўтарытэтам. І паэтычны голас Сэндберга-пачаткоўца вельмі спадабаўся Манро: простыя, вольныя, яго стыль чымсьці нагадваў голас Уолта Уітмана. Ды і чытачы падхапілі агульнае захапленне. Лепшым доказам таму можа служыць факт, што часта ўжывальная ў адносінах да Чыкага метафара «Горад з шырокімі плячыма» запазычаная з верша Сэндберга.

У падборцы «Чыкага» аўтар засяроджваецца не толькі на вузкай тэме горада. У сваіх простых, моцных і адкрытых вершах паэт выступае нібыта медыятарам, які выказвае асноўныя павевы часу. Як, напрыклад, у вершы «Молат»:

*Я бачыў*
*Як старыя багі сыходзяць*
*І новыя багі прыходзяць.*

*Дзень за днём*
*Год за годам*
*Ідалы падаюць*
*І новыя ідалы ўзвышаюцца.*

*Сёння*
*Я пакланяюся молату.*



Карл Сэндберг.

Тут няма бяздумнага максімалісцкага захаплення тэхнічным прагрэсам — толькі прызнанне аўтарытэту прамысловасці і залежнасці чалавека ад машын. З гэтым працэсам немагчыма змагацца, яго нельга адмаўляць, бо ў адваротным выпадку молат, які прыносіць карысць усяму чалавецтву, можа проста раздушыць асобна ўзятага чалавека.

Зрэшты, у цыкле вершаў «Чыкага» Карл Сэндберг уздымае і іншыя важныя пытанні чалавечага быцця. Ён піша, што для таго, каб адчуваць сябе жывым, імкнуцца да шчасця, унутранага самаўдасканалення, чалавеку патрэбныя не золата і слава, але адчуванні сораму і паразы, «голад, боль і жаданне», а таксама «*крыху каханне, / Голас, які размаўляў бы са мной напрыканцы дня, / Рука, якая дакраналася б да мяне ў цемры*» (верш «Каля акна»). Закранае паэт і больш сур'ёзныя, глабальныя тэмы: пошук праўды, адметнасці гістарычнага развіцця чалавецтва, выбар уласнага шляху ў будучыні і расстанне з былым.

Так, у вершы «Хто я?» Сэндберг паказвае сваё разуменне Праўды: «Мяне завуць Праўда і я самы няўлоўны вязень у Сусвеце», а ў вершы «Мом» (у Старажытнай Грэцыі — бог насмешкі і дурасці) выказвае крытычнае стаўленне да гісторыі чалавецтва:

*Мне цікава, Мом,*
*Ці сядзяць дзесьці цені мёртвых*
*і глядзяць з глыбокім смехам*
*На людзей, якія гуляюць у жудасна*
*шчырыя, старыя, вядомыя,*
*фармальныя паўторы гісторыі.*

Філасофія паэзіі Сэндберга — не кніжная, але жыццёвая, блізкая да мудрасці і разумення, якія прыходзяць з гадамі і досведам. Яго вобразнасць — не вытанчаная, а да болю простая, амаль будзённая, метафары — нібыта высечаныя сякерай з дрэва ці адточаныя з каменю. Тут шмат шэрага колеру, шмат голаду, але, па меркаванні паэта, гэта лепш, чым згубіцца ў адзіноце, хай нават у хвалях самага прыгожага сіняга возера. Да прыкладу, у вершы «Згубленая» Сэндберг піша: «*лодка / Кліча і плача няспынна, / Як згубленае дзіця / У слязах і ў бядзе / Шукае грудзі прыстані / І вочы прыстані*».

Пазней, праз гады, Карл Сэндберг стане адным з самых любімых аўтараў амерыканцаў. Ён выдасць некалькі зборнікаў паэзіі, напіша кнігу казак для дзяцей, атрымае фінансавы поспех пасля выдання двухтомнай біяграфіі Абрахама Лінкальна. Ён зверне ўвагу на тэму расавай роўнасці ў краіне і будзе шмат працаваць у галіне даследавання амерыканскага фальклору. Яго кнігі «Амерыканская сумка з песнямі» і «Новая амерыканская сумка з песнямі», дзе сабраныя многія песні і балады, запісаныя падчас доўгіх падарожжаў паэта па краіне, і праз паўстагоддзя пасля выхаду будуць прываблiваць увагу музыкаў. Дарэчы, сам Карл Сэндберг падчас чытанняў таксама любіў узяць у рукі бандажа ці гітару і заспяваць…

Марына ВЕСЯЛУХА

# Праменад пад класіку

**Вам падабаюцца шэдэўры сусветнай музыкі, але магчымасці ці жадання слухаць іх у акадэмічных канцэртных залах няма? У новым сезоне Беларуская дзяржаўная філармонія выводзіць класіку на вуліцы і плошчы сталіцы.**

Упершыню атрымаць асалоду ад любімых кампазіцый на вольным паветры можна было падчас жывой трансляцыі адкрыцця 77-ага сезона Белдзяржфілармоніі на вялікім экране, усталяваным на прыступках «Верхняга горада» ля Ратушы. Арганізатары ўзялі прыклад з BBC Proms — штогадовага міжнароднага фестывалю ў лонданскім «Альберт-холе».

— Ідэя набліжэння класікі да шырокай публікі далёка не новая. Музычныя шоу ў падобным фармаце штогод праходзяць у Лондане, Парыжы, Берліне, Празе, Вене і іншых сталіцах Еўропы. Такія канцэрты прыцягваюць вялікую колькасць гледачоў — як найшчырэйшых прыхільнікаў акадэмічнай музыкі, так і аматараў культурных гарадскіх мерапрыемстваў. Анлайн-трансляцыя класікі Мінск далучыўся да еўрапейскіх сталіц, — распавёў ініцыятар праекта, кіраўнік апякунскага савета фонду «Ідэя» Віктар Радзькоў.

Па традыцыі першы акорд выканаў Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі Аляксандра Анісімава. У першым аддзяленні прагучала прэм'ера сачынення вядомага беларускага кампазітара Галіны Гарэлавай «Страсці па Шагале», а таксама сімфанічная рапсодыя Леоша Яначэка «Тарас Бульба». У другім аддзяленні — сінтэз музыкі і паэзіі. Аркестр выканаў трэцяе дзеянне оперы Пятра Чайкоўскага «Мазепа». Музыка гучала ў суправаджэнні радкоў з паэмы А. С. Пушкіна «Палтава», якія прачытаў акцёр тэатра і кіно Андрэй Мярзлікін. Удзел у канцэрце ўзялі запрошаная салістка Самарскага тэатра Ірына Крыкунова, заслужаны артыст Расіі Васіль Святкін і саліст Марыінскага тэатра, заслужаны артыст Украіны Віктар Луцюк.

— На працягу доўгага часу класічная музыка ў нашай краіне «жыла» ў залах, тады як у Еўропе і Амерыцы яна даўно знайшла свайго гледача на адкрытых пляцоўках. Вельмі спадзяюся, што падобная традыцыя нарэшце прыжывецца і ў нас, — адзначыў генеральны дырэктар Белдзяржфілармоніі Аляксандр Гарбар.

Акрамя таго, 77-ы сезон здзіўляе насычанай і яскравай праграмай. З 29 верасня пачнецца IX Міжнародны фестываль Юрыя Башмета, у межах якога выступяць вядомыя музыкі — скрыпач Вадзім Рэпін, піяніст Бары Дуглас, а таксама артысты першага аркестра свету — салісты каралеўскага сімфанічнага аркестра Канцэртгебау Амстэрдама. Знаўцы музычнага мастацтва будуць мець магчымасць сустрэцца з самім маэстра, якому прысвечаны фестываль. 7 кастрычніка ў Вялікай зале філармоніі выступіць камерны ансамбль «Салісты Масквы», дырыжор і саліст — Юрый Башмет.

Сёлета атрымае працяг і цыкл «Музычныя сталіцы Еўропы». Ён адкрыецца 3 кастрычніка прысвячэннем гораду Дрэздэну. У канцэрце возьмуць удзел салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Наталля Акініна (мецца-сапрана) і Аляксей Мікуцель (тэнар), а таксама вядомы айчынны скрыпач Арцём Шышкоў. На працягу сезона калектыў «Камерныя салісты Мінска» пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Зубава запланаваў канцэрты, якія распавядуць музычныя гісторыі Кракава, Лондана і Санкт-Пецярбурга.

Працягнецца таксама цыкл канцэртаў пад назвай «Джазавыя вечары ў філармоніі». Прадуктыўнае супрацоўніцтва з Польскім інстытутам дазволіць убачыць і пачуць вядомых выканаўцаў з Польшчы. 24 верасня ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі выступіць сусветна вядомая спявачка Ганна Марыя Ёпэк, а 22 кастрычніка — піяніст Артур Дуікевіч. Адбудуцца выступленні музыкаў з Літвы і Расіі.

У цыкле канцэртаў «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва» на сцэну выйдуць маладыя выканаўцы і карыфеі арганнага майстэрства. Чароўныя гукі аднаго з самых складаных інструментаў можна будзе пачуць у выкананні заслужанай артысткі Расіі Людмілы Голуб, Аляксандра Фісейскага, Данііла Дварцова, Ёганэса Геферта, Рональда Эбрэхта ды інш. У межах канцэрта, прысвечанага 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны, прагучаць творы кампазітараў краін — удзельніц вайны: Францыі, Англіі, ЗША, Бельгіі, Расіі, Італіі і Германіі.

Філармонія з радасцю прымае на сваёй сцэне маладых выканаўцаў у межах цыкла «Настаўнікі і вучні», які працягнецца ў новым філарманічным сезоне. Адбудуцца канцэрты класаў педагогаў Мікалая Марэцкага, народных артыстаў Беларусі Ігара Алоўнікава і Яўгена Гладкова.

З 28 кастрычніка па 15 лістапада пройдзе XXXX Міжнародны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень», у якім возьмуць удзел беларускія цымбалісты Аляксандра Дзенісеня і Міхаіл Лявончык. Сольную праграму выканае заслужаная артыстка Беларусі Ірына Шуміліна. 1 лістапада адбудзецца канцэрт амерыканскага джаз-ф'южн гітарыста Лары Кор'ела.

З 2 па 13 снежня — XXI Міжнародны конкурс піяністаў імя І. Цвятаевай. Усе тры туры конкурсу пройдуць на сцэне Белдзяржфілармоніі. Члены журы не толькі ацэняць майстэрства выканаўцаў, але і дадуць майстар-класы.

77-ы сезон багаты на юбілейныя даты. Спаўняецца 175 гадоў з дня нараджэння П. І. Чайкоўскага. У філармоніі адзначаць 100-годдзе кампазітара Георгія Свірыдава і піяніста Святаслава Рыхтэра. У сакавіку 2015-га пачнецца цыкл канцэртаў «Мінская вясна», у межах якога адбудуцца канцэртныя праграмы, прысвечаныя гэтым музыкам. 75-годдзе адзначыць Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы.

У зале Белдзяржфілармоніі будуць гучаць галасы вядомых эстрадных выканаўцаў. 26 кастрычніка адбудзецца канцэрт, прысвечаны творчасці Эдуарда Ханка «Ці тое яшчэ было», а 25 лістапада выступіць Ігар Карнялюк.

Запланаваны і канцэрты маладых салістаў філармоніі — гітарыста Паўла Кухты, піяністаў Аляксандра Музыкантава і Аляксандра Палякова, баяніста Уладзіслава Плігаўкі, а таксама расійскага гітарыста Яўгена Фінкельштэйна. 19 верасня ў Малой зале выступяць вакалісты з Кітая Лі Гун і Хантаа Ван. Акрамя таго, нас чакаюць канцэрты выканаўцаў з Літвы, Польшчы, ЗША і Францыі.

**Таццяна ШЧЭРБА**

**Пасля двух гадоў вандроўкі па гарадах Беларусі і замежжа выстаўка твораў сучасных беларускіх мастакоў Zabor вярнулася ў Мінск. У Нацыянальным мастацкім музеі на працягу месяца жыхары і госці сталіцы змогуць убачыць творы дзесяці сучасных беларускіх мастакоў з розных рэгіёнаў краіны.**



*Сяргей Каваль «Іван ды Мар'я». 2012.*

# Адчуваць рэальнасць

Нагадаем, што арт-праект Zabor першым выставіў рэпрадукцыі карцін сучасных жывапісцаў на цэнтральных агароджах паркаў беларускіх гарадоў. Стартаваўшы ў ліпені 2012 года на вытанчанай агароджы парку Чалюскінцаў, цягам наступных двух гадоў арт-праект наведаў усе абласныя гарады рэспублікі, экспанаваўся ў Варшаве. Рыхтуецца выстаўка ў Парыжы. Галоўная мэта праекта — знаёмства гараджан і гасцей краіны з сучасным беларускім мастацтвам.

— Мы імкнуліся паказаць розныя напрамкі і стылі, — адзначыла дырэктар арт-праекта Zabor Антаніна Серакова. — Тут можна ўбачыць і наіўнае мастацтва Сяргея Каваля, і абстрактны жывапіс віцебскага мастака Аляксандра Дасужава, і канцэптуальны праект Руслана Вашкевіча, і сюррэалістычныя афорты Юрыя Якавенкі. Распрацоўваючы канцэпцыю выстаўкі, нам хацелася не проста паказаць работы мастакоў, але стварыць для кожнага сваю прастору, рэалізаваную як асобны праект. Для гэтага былі выкарыстаны інсталяцыі, мультымедыйныя тэхналогіі.

Выставачная прастора з экспазіцыяй Сяргея Каваля ператворыцца ў «дзіцячы пакой» са спецыяльнымі майстэрнямі. Валанцёры будуць працаваць з дзецьмі: маляваць, ляпіць, рабіць аплікацыі. У працэсе такой гульні юныя аматары прыгожага змогуць пазнаёміцца з рознымі напрамкамі ў сучасным мастацтве. Малады рэжысёр Раман Бурмакоў спецыяльна для выстаўкі «ажывіў» карціну С. Каваля «Стары Віцебск». У зале з афортамі гродзенскага графіка Юрыя Якавенкі створана відэаінсталяцыя — экспануецца серыя «Хічкок і Далі».

— Нам хацелася ўзнавіць сюррэалістычную атмасферу саміх афортаў у больш маштабным выглядзе. Абмяркоўваючы праект з Юрыем Якавенкам, мы стварылі асаблівую, амаль тэатральную прастору, дзе глядач у першыя секунды знаходжання ў зале губляе адчуванне рэальнасці, — паведаміла Антаніна Серакова.

Большая частка твораў выстаўкі належыць інвестыцыйнаму фонду «Зубр Капітал», які з'яўляецца арганізатарам праекта. «У калекцыі зараз больш як 350 работ, і гэта адзін з самых буйных прыватных збораў сучаснага мастацтва ў Беларусі, — распавяла арт-дырэктар «Zabora» Ірына Кандрацёнка. — Мастакі падораць музею ў яго юбілейны год па адным творы».

У межах выстаўкі арганізаваны прафесійны лекторый, прысвечаны сучаснаму мастацтву, экскурсіі па залах з мастакамі праекта ў ролі гідаў, вечары-кінапаказы, майстар-класы па жывапісе, экскурсіі для дзяцей.

**Ганна ШЫМУК**

# Прага (пера-)стварэння

Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва прапануе ўвазе гледачоў даследчы выставачны праект «Дыялог эпох. Інтэрпрэтацыі». Удзельнікі — сучасныя беларускія мастакі і скульптары, якія выкарыстоўваюць у сваіх творах прынцып цытавання вобразаў класічнага і постакласічнага мастацтва.

Незвычайнасць праекта — у аб'яднанні традыцыйных і наватарскіх выяўленчых сродкаў у работах айчынных творцаў: Сяргея Рымашэўскага, Канстанціна Селіханава, Адама Глобуса, Руслана Вашкевіча ды іншых. Яны смела перайшлі з «вы» на «ты» ў дыялогу з вялікімі класікамі.

Насуперак звыкламу проціпастаўленню актуальнага мастацтва класіцы, праект закліканы паказаць безумоўную прыналежнасць сучаснага беларускага мастацтва заходнееўрапейскай выяўленчай традыцыі. Тонкая іронія і самаіронія аўтараў, іх смелая гульня з добра знаёмымі сэнсамі і формамі рыхтуюць глебу для ўзнікнення новых культурных феноменаў.

Здзіўляе кампазіцыя «TROFIMOS» творчай майстэрні «Басталія». Група стварыла цэлы міф сям'і Трафімічаў: напісалі партрэты, расшыфравалі прозвішча з грэчаскай мовы (карміцель — TROFIMOS — гадаванец), пазначылі дату шлюбу, зрабілі сямейны герб у выглядзе капусты і нават сямейны гімн. У якасці цытаты была ўзята знакамітая карціна Яна Вермеера «Урок музыкі».

Зацікавіць наведвальнікаў гравюра Альбрэхта Дзюрэра «Адам і Ева», якую мастак Сяргей Грыневіч з пэўнай доляй іроніі «прапусціў» праз рэнтгенаўскае і інфрачырвонае выпраменьванне, каб даказаць, што біблейскія героі нам вельмі блізкія.

Алег Касцючэнка натхніўся раманам «Смага жыцця» амерыканскага пісьменніка Ірвінга Стоўна. Як вынік — карціна «Трубка Ван Гога» — спроба спрычыніцца да творчасці знакамітага нідэрландскага постімпрэсіяніста.

— Гэты мастак для мяне — прыклад самааддачы ў прафесіі, самавыяўлення. Сімвалічны сэнс трубкі я бачу ў тым, што менавіта праз яе Ван Гог удыхаў радасць і гора, — паведаміў самы малады ўдзельнік выстаўкі.

Праект «Дыялог эпох. Інтэрпрэтацыі» арганізатары задумалі як своеасаблівае даследаванне, заклікаенае звярнуць увагу публікі на яшчэ адзін цікавы аспект існавання сучаснага беларускага мастацтва ў яго дачыненні да класікі.

**Вольга РОПАТ**

# Кніга ці камп'ютар?

**Дзіцячая бібліятэка № 11 знаходзіцца ў адным з самых маляўнічых раёнаў Мінска. Ад майго дома да кніжніцы — не больш як пяць хвілін: маленькай дзяўчынкай часта прыходзіла па новыя кнігі ва ўтульны пакой, упрыгожаны малюнкамі, цацкамі, кветкамі…**

Ужо больш за 30 гадоў дзіцячая ўстанова прымае чытачоў. Спачатку існавала як філіял Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі, працавала ў экалагічным кірунку. Сёння яе кніжны фонд налічвае каля 42 тысяч розных выданняў. На паліцах — не толькі класіка, але і навінкі беларускага і расійскага кнігавыдання, а таксама дэтэктывы, фантастыка, прыгодніцкая літаратура… Таму сюды прыходзяць і дарослыя.

У бібліятэцы працуюць людзі, здольныя сваю любоў да кнігі перадаць дзецям. «Любоў да чытання, безумоўна, пачынаецца з сям'і, але і наша роля не менш важная, — зазначыла загадчыца бібліятэкі Вольга Грышчанкова. — Галоўнае — індывідуальны падыход да кожнага юнага чытача. Таму мерапрыемствы павінны быць не толькі пазнавальнымі, але і вясёлымі».

Здаецца, сёння дзеці не спяшаюцца ўзяць у рукі кнігу, а больш часу праводзяць за камп'ютарам ці мабільнікам. Але гэта не зусім так. У бібліятэцы № 11 заўсёды шмат наведвальнікаў. Супрацоўнікі кніжніцы ладзяць прэзентацыі, запрашаюць пісьменнікаў, арганізоўваюць святы, віктарыны, урокі пазакласнага чытання, выстаўкі малюнкаў ды фотаздымкаў, вырабаў сваімі рукамі. Дарэчы, бібліятэка ўжо мае добрую калекцыю дзіцячай творчасці.

Творчы падыход адчуваецца ва ўсім: напрыклад, на сцяне намалявана велізарнае прыгожае дрэва: менавіта каля яго праходзяць дзіцячыя заняткі. І нават гардэроб тут незвычайны. Побач з ім — палічка з кнігамі, падараванымі чытачамі. Любое выданне можна ўзяць і пачытаць. Такі вось «буккросінг».

Асаблівая ўвага надаецца экалагічнаму выхаванню. Не першы год у бібліятэцы працуе дзіцячы экалагічны клуб «Каўчэг». Маленькія аматары прыроды вучацца беражліва ставіцца да кожнай жывой істоты. Нядаўна была адкрыта «Школа этыкету», дзе юныя чытачы асвойваюць азы паводзін у школе, гасцях, транспарце, бібліятэцы. Заняткі праходзяць у форме гульні. А клуб «Кветкі для шчаслівага жыцця» аб'яднаў кветкаводаў-аматараў розных узростаў і прафесій.

На маё пытанне «Па якія кнігі часцей за ўсё прыходзяць дзеці?» супрацоўнікі бібліятэкі адказалі, што асаблівай папулярнасцю, акрамя твораў школьнай праграмы, карыстаюцца кнігі Уладзіміра Мазго, Раісы Баравіковай, Алены Масла, Міхаіла Самарскага, Валерыя Гапеева і Эдуарда Веркіна.

**Ганна ПАЛЯКОВА**



*Маленькія чытачы і вядучы бібліятэкар кніжніцы Анжаліка Савушкіна.*

# Іншы Быкаў

**Дзявятыя навуковыя чытанні, прымеркаваныя да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава, адбыліся ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага. Да гэтай падзеі актыўна спрычыніліся літаратары Прынёманскага краю. Творчасці класіка прысвечана і гэтае эсэ.**

Напісана і сказана ўжо безліч. Не змяншаецца паток неадназначных меркаванняў, дыскусій, навуковых даследаванняў, адкрыццяў. Навукоўцы-літаратуразнаўцы, гісторыкі-краязнаўцы, грамадскія дзеячы, літаратары, журналісты-эстэты… Пра асобу і творчую спадчыну Васіля Быкава, несумненна, і далей будуць пісаць, спрачацца, палемізаваць...

Амаль палову жыцця творца пражыў у маім родным горадзе. Са школьнай пары помню сюжэты яго аповесцей. «Альпійская балада», «Знак бяды», «Жураўліны крык», «Сотнікаў», «Дажыць да світання»... Упершыню тэма вайны паўстала горкай і ганебнай. Нездарма, паўтараючы свайго куміра, беларускі Хэмінгуэй называў сябе «прадстаўніком забітага пакалення». Створаныя ім сюжэты ўражваюць неверагоднай глыбінёй. А надзвычай глыбокі вобраз аўтара і для мяне шмат у чым трагічны.

Які ж ён, мой Быкаў? У адным з інтэрв'ю пісьменнік заўважыў: «Падчас вайны, як ніколі, выяўлялася важнасць чалавечай маральнасці, непахіснасць асноўных маральных крытэраў». У гэтым увесь ён — вядомы беларускі пісьменнік-франтавік, аўтар аповесцей з майго школьнага дзяцінства, які па-майстэрску адлюстраваў чалавечую мараль у разрэзе, калі можна так выказацца, ва ўсёй красе. Чытачы ліхаманкава пацягнуліся да яго кніг. Тэма сумлення стала сур'ёзным выпрабаваннем сілы духу, тэстам для грамадскай маралі. Невыпадкова дзякуючы прозе Быкава ў маёй юнацкай свядомасці, нібы звон, грымнуў матыў канцавасці быцця, а пасля ўзнікла пякучая ўнутраная трывога, што не аціхне, відаць, ужо ніколі. Лепш бы мой Быкаў застаўся там, у бясклапотным і шумным, як перапынак, савецкім дзяцінстве...

Памятаю, у адным са школьных сачыненняў я прызнаўся, што хачу бы быць падобным да Васіля Быкава, паколькі ён — наш, блізкі, родны. Хоць і знакаміты. Хоць і нязручны для многіх. Яго крэда — кантрасты. Кантрасты з тым, што прыходзілася чытаць нам раней, з тым, чаго ў тыя часы чакалі ад літаратуры. Экзістэнцыяльная філасофія Быкава збліжае яго, а заадно і ўсіх нас, з нейкім сусветным розумам, што закліканы любой цаной забяспечваць і падтрымліваць гармонію ў прыродзе, грамадстве, мастацтве.

Следам за эпохай палымянай барацьбы наступіла кароткая адліга. Смуту тэктанічных зрухаў змяніла «невыносная лёгкасць быцця». А ён працягваў ваяваць. Тым больш, што «асноўныя маральныя крытэры» пачалі сцвярджаць сваю непахіснасць усё радзей.

Учарашні Дон Кіхот, беларускі Хэмінгуэй, наш уласны Рэмарк неяк непрыкметна ператварыўся ў панурага дзядзьку з цяжкім позіркам з-пад броваў. Я, чытач, раптам адчуў, што ў чымсьці вельмі вінаваты перад ім. Атрымліваецца, не зразумеў ці не так прачытаў яго аповесці.

Гэты, іншы Быкаў, стаў маім болем, дакорам на ўсё жыццё. Гартаю старонкі знаёмых аповесцей, падоўгу ўзіраюся ў твар іх аўтара на здымку. Намагаюся зразумець, хто ж мае рацыю: аўтар ці чытач. Вы ці я? Толькі «разрыўны» кашаль Сотнікава даносіцца аднекуль мне ў адказ...

**Дзмітрый РАДЗІВОНЧЫК**

# Для кемлівых

Тэматычная гарадская гульня для пешаходаў і веласіпедыстаў «Чытай-Горад» адбудзецца заўтра ў Мінску. Акцыя прымеркавана да Дня бібліятэк, які адзначаўся 15 верасня, а таксама агульнаеўрапейскага Тыдня мабільнасці.

Старт і фініш гульні — каля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У мерапрыемстве могуць браць удзел усе жадаючыя. Сярод арганізатараў гульні — Беларуская бібліятэчная асацыяцыя, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Навуковая бібліятэка БНТУ. У межах гульні «Чытай-Горад» адбудзецца таксама афіцыйнае адкрыццё першай у Беларусі міні-бібліятэкі пад адкрытым небам. Нядаўна Навуковая бібліятэка БНТУ далучылася да міжнароднага некамерцыйнага праекта «Маленькія бясплатныя бібліятэкі». Гэта хаткі, пабудаваныя спецыяльна для свабоднага абмену выданнямі. Іх становіцца ўсё больш. Кожная міні-кніжніца мае ўласны рэгістрацыйны нумар, а на сайце праекта *littlefreelibrary.org* можна знайсці яе каардынаты. Мінская хатка з'явілася на алеі перад галоўным корпусам БНТУ.

**Раіса МАРЧУК**

# Класіка ўслых

Акцыя «Магілёў чытае дзецям» адбылася ў абласным цэнтры ўпершыню. З нагоды Дня бібліятэк кнігі маленькім магілёўцам чыталі знакамітыя людзі горада.

Пачалася яна 10 верасня ў інфацэнтры «Чытаем з унукамі», якую арганізавала дзіцячая бібліятэка-філіял імя А. С. Пушкіна на базе Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Кастрычніцкага раёна. Прайшлі публічныя чытанні літаратурных твораў, на якіх вырасла некалькі пакаленняў.

Праз дзень на сустрэчу з юнымі чытачамі гарадскіх бібліятэк завіталі спартсмены і журналісты, ганаровыя грамадзяне горада і акцёры мясцовых тэатраў. Яны пачыталі класіку ўслых, распавялі пра свае любімыя кнігі, адказалі на пытанні прысутных.

15 верасня, у Дзень бібліятэк, у скверы 40-годдзя Перамогі, Камсамольскім скверы, на Тэатральнай плошчы і ў іншых месцах прайшоў флэшбук «Кніга ў падарунак»: валанцёры раздалі дарослым кнігі, якія можна будзе пачытаць дзецям перад сном. Мэта мерапрыемства — вярнуць традыцыю сямейнага чытання.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Была вайна...

Літаратурна-музычная кампазіцыя на пэўную тэму — такая форма работы з чытачамі трывала прыжылася ў сталічнай бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча. Да матэрыялаў з інтэрнэту тут падыходзяць творча: на працягу гадзіны прысутным дэманструецца пэўнага кшталту дакументальны фільм.

Гэтым разам перад удзельнікамі імпрэзы паўстала вайна. На экране змяняліся фотаздымкі тых часоў. Пранікнёны аповед загадчыцы бібліятэкі Наталлі Стрыгельскай змушаў вучняў гімназіі № 27 пільна ўглядацца ў экран. Гучалі песні, дэкламаваліся вершы. Увага гімназістаў засяроджвалася на кнігах пра вайну такіх аўтараў, як Віктар Астаф'еў, Рыгор Бакланаў, Барыс Васільеў, Віктар Някрасаў ды іншых пісьменнікаў ваеннага «прызыву». Асобная старонка ў гэтым кніжным летапісе была адведзена Васілю Быкаву.

Уважліва слухалі вучні і выступленне Анатоля Зэкава. Пісьменнік не абышоў у сваёй творчасці гэтую тэму — напісаў нізку вершаў «Сны з вайны», некаторыя радкі з якіх прагучалі падчас сустрэчы.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

# Светам кіруе той, хто чытае

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

Прэзентацыя абноўленага часопіса «Бярозка» пачалася ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 6 са слогана: «Светам кіруе той, хто чытае».

«Бярозка» ў новым фармаце мае характар адукацыйна-забаўляльнага праекта для школьнікаў сярэдняга і старэйшага ўзросту, чым закрывае «нішу», якая пэўны час існавала паміж выданнямі для дзяцей («Вясёлка», «Буся») і студэнцкай моладзі («Маладосць»). Гэта «афіцыйная версія». Ніколькі ёй не адмаўляючы, калектыў рэдакцыі часопіса «Маладосць» прадстаўляе адноўленую «Бярозку» досыць неардынарна, адпаведна самому выданню. Электронная прэзентацыя суправаджалася расшыфроўкамі рубрыкатара і расповедамі пра творчыя пакуты, у якіх нараджалася тое лепшае, новае, нестандартнае, чым мяркуецца напаўняць старонкі.

Захаваныя як «спадчына папярэдніка», рубрыкі «Верасок» і «Літаратурныя старонкі» (першая — творчыя спробы падлеткаў, другая — узоры для іх з-пад пяра нашых мэтраў) служаць сімвалічнымі крыламі, што ахінаюць астатнія праекты — рознамаштабныя і разнапланавыя. Вось, да прыкладу, «Практыкум»: сапраўдныя ўрокі для будучых пісьменнікаў — з тлумачэннем памылак і хатнімі заданнямі. «Я ведаю, што і ты сёе-тое пішаш», — звяртаецца вядучы рубрыкі, паэт Віктар Лупасін, да чытача. І, дадаўшы: «Сёння я табе патлумачу, як рабіць гэта крыху лепей», сапраўды тлумачыць, дасціпна і проста: «*Баўся гукапісам, гуляйся з сінтаксісам*», «*Слова «заснуць» універсальнае, а «паснуць» ужываецца, калі засынаюць некалькі істот*», «*выразы «Беларусь сінявокая» і «жыццё ў рэжыме он-лайн» зрабіліся штампамі, таму лепш іх сэнс выказаць іншымі словамі*»...

А вось праект-«рэверс» — «Бел.літ.» — прэтэндуе на тое, каб стаць істотным дапаможнікам вучням, бацькам і настаўнікам. Яго дэвіз — «Як чытаць, каб падабалася». А дэбютны артыкул — «Галоўная беларуская паэма» — не толькі прапануе прыдзірліва адрозніць някрасаўскага мужыка ад коласаўскага, а «Каму на Русі жыць добра» — ад «Новай зямлі», але і тлумачыць, сімвалам чаго ёсць Новая зямля для нас, сённяшніх.

Што такое «Цікавосткі»? Гэта і не рубрыка нават, а проста маленькія кругляшы, рассыпаныя па старонках «Бярозкі» ў адвольным парадку. Як разынкі ў пірагу! «*Пенал — футляр для пер'яў, бо пер'е — гэта «пенна»*». Цікава? Вось таму і «Цікавосткі».

«Напішы, як *той або той* (імя і прозвішча), — і станеш аўтарам калонкі!» — смела прапануе амбіцыёзным творчым падлеткам блок заўзятых калумністаў. Назвы калонак адпаведныя: «Па-дарослааму», «Пазакласнае», «Калі сур'ёзна», «Жыццёвае»… Тэрыторыя загадак і эксперыментаў — рубрыка «Табе навука». Тут плануюцца выступленні найцікавейшых навукоўцаў і папулярызатараў знаходак і адкрыццяў. Інтэрв'ю з выбітным равеснікам чытача — гэта «Гісторыя поспеху». Алгарытмы рашэння надзённых праблем прапануе «Псіфакторыя». Ёсць і «смачная» старонка — «Гатавальня». «Пілот» прадстаўляе рэцэпт сліжыкаў. Ці не з «Новай зямлі»?

Асаблівую ўвагу стваральнікі новага выдання надаюць інтэрактыўнаму праекту са школамі краіны «Настаўніцкая на праслушцы». Тэма пілотнага нумара — трохкутнік «настаўнікі — дзеці — бацькі». Пра што размаўляюць паміж сабой настаўнікі, калі іх не чуюць вучні? Няўжо нецікава?!

Акрамя таго, старонкі «пілота» суправаджаюць «Словы на дарогу» — цёплыя звароты да стваральнікаў і чытачоў ад дзіцячых пісьменнікаў, рэдактараў дзіцячых выданняў, а таксама нераўнадушных чытачоў. Сярод іх і першы сакратар ЦК ГА «БРСМ» Ігар Бузоўскі, які не сумняецца: выданне будзе садзейнічаць станаўленню новых маладых творчых імён у літаратуры, спрыяць развіццю нашай культуры.




«КРУГЛЫ СТОЛ»

**Святлана Дзянісава, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць»:** — Чаго, на вашу думку, стала бракаваць ранейшай «Бярозцы», ды так, што яна перастала існаваць у самастойным фармаце? Пытаюся, бо мы мусім улічваць падобныя акалічнасці, каб яны не спрацавалі зноў.

**Людміла Бусел, загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 4:** — Перш чым пайсці на гэту сустрэчу, я прагледзела «Бярозку» за 2009 і 2010 гады і зрабіла параўнальны аналіз. На вокладках нумароў за 2009-ы — твары тых, пра каго распавядаецца ў нумары, — па аналогіі з прэзентаванай толькі што рубрыкай «Гісторыя поспеху». Маладыя твары — гэта тое, што, на мой погляд, адразу прыцягвае ўвагу. У 2010 годзе вокладка ўжо іншая — больш падобная да той, якую вы прадстаўлялі сёння. Калі б я была падлеткам, мяне яна не прывабіла б. Чаму рускамоўныя выданні для падлеткаў добра чытаюцца? Таму што яны ззяюць-зіхацяць. Кожны часопіс кліча вокладкай. Гэта, я лічу, галоўнае. Ну, а яшчэ прычынай магло быць тое, што падлеткі ўвогуле мала чытаюць па-беларуску.

**Віктар Лупасін, рэдактар аддзела літаратурнай вучобы часопіса «Маладосць» («Бярозка»):** — Чытаюць. Хай і не ўсе. Справа ж у тым, што часопіс «Бярозка» робіцца для падлеткаў, якія ведаюць мову і цікавяцца літаратурай: такая яго функцыя з даўніх часоў.

**Л. Б.:** — Ну, гэта адзін працэнт ад усіх падлеткаў. Наогул, чытаюцца толькі кнігі па школьнай праграме... Мне ў той «Бярозцы» яшчэ падабалася рубрыка пра вырабы сваімі рукамі. Гэта было вельмі цікава. Напрыклад, беларускі часопіс «Ксюша» дзеці вельмі добра бяруць і ахвотна з ім працуюць. І ў «Бярозцы» за 2009 год гэта рубрыка ёсць, а ў 2010-м ужо адсутнічае.

**С. Д.:** — Пытанне, між тым, двухбаковае. Калі існуюць спецыялізаваныя выданні, скіраваныя на нейкі канкрэтны інтарэс ці род дзейнасці, дык той, хто гэтай тэмай цікавіцца, будзе браць менавіта спецыялізаванае выданне, а не «Бярозку», у якой зусім іншыя задачы. Яна, канечне, можа ўтрымліваць усе рубрыкі, якія толькі прыдумае для падлеткаў наша фантазія…

**В. Л.:** — Мы можам рабіць 248 старонак замест 48, але ці ёсць у гэтым сэнс?

**Л. Б.:** — Я лічу, што часопіс павінен быць займальным, нават калі ён літаратурны. Не ведаю, як мяркуюць калегі, але мне здаецца, што яшчэ і рубрыка «Мода» патрэбна — яна ж ёсць у многіх выданнях.

**Рэплікі збоку:**

— Псіхалагічныя тэсты таксама.

— Постары нейкія ў сярэдзіне змяшчаць, каб дзеля іх «Бярозку» таксама куплялі.

**Л. Б.:** — Можа, больш ілюстрацый. Каб не кожная старонка была з тэкстам. Мне здаецца, часопіс павінен быць такім: тут паглядзеў, там паглядзеў, тут такая ілюстрацыя спадабалася, там такая, а вось тут пачытаю…

**Тамара Патук, загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 6:** — Людміла Станіславаўна, гэта ўжо падлеткі, а не малыя.

**Рэпліка збоку:** — Усё роўна.

**С. Д.:** — Часопіс не салата, у якой трэба ўсё змяшаць і соусам заправіць. У «Бярозкі» як выдання з гістарычна складзенай місіяй павінна быць пэўная канцэпцыя з арыентацыяй — нават і скрозь забаўкі — на тых, хто хоча спрабаваць сябе ў літаратуры. Гэта часопіс, які павінен сведчыць, што ў нас ёсць інтэлектуальна развітыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якім чытаць «Бярозку» патрэбна для ўласнага развіцця. Пры гэтым яны могуць і «Ксюшай» цікавіцца, і модай захапляцца. Стваральнікі выдання ставяць перад сабой задачу трымаць баланс паміж тэкставымі блокамі і забаўляльнай «нарэзкай», каб з «Бярозкай» было цікава адпачываць, але добра, калі ёсць, ад чаго адпачываць.

**Т. П.:** — Дазвольце рэмарку. Людміла Станіславаўна тут сказала, што трэба змяшчаць на вокладцы фота. Але гэта ж будзе паўтарэнне часопіса «Вясёлка». Не рабіце гэтага, прыдумайце нешта новае. З вашай прэзентацыі вынікае, як мне падалося, што часопіс будзе вельмі цікавы. Канечне, калі мы патрымаем яго ў руках, то зразумеем больш. Бо самае галоўнае — каб ён друкаваўся на добрай паперы.

**С. Д.:** — Ён будзе на мелаванай паперы і каляровы.

**Т. П.:** — Вось гэта — самае істотнае. І я ў некаторым напружанні ад рубрыкі «Зубронак». Гэта будуць матэрыялы толькі пра «Зубронак»?

**В. Л.:** — «Зубронак» — нашмат шырэй, чым сама ўстанова з такой назвай. Цэлая катэгорыя, якая ўмяшчае ў сябе палову насельніцтва нашай краіны самых розных узростаў. Тут на мэце не рэклама «Зубронка», а расповед пра пазашкольны, адмыслова ўстаноўлены лад жыцця ў адукацыйна-аздараўленчай установе са сваёй гісторыяй і славай.

**Т. П.:** — І яшчэ пажаданне. Ездзіце, калі ласка, па ўсёй краіне і асабіста дамаўляйцеся з усімі, ад каго толькі можа залежаць лёс выдання. Мы ў бібліятэках заўсёды прымем вашу рэдакцыю з прэзентацыяй чарговага нумара. І прадумаем, як можна зрабіць яго цікавым для вучняў і настаўнікаў сталічных школ.

**Анжаліка Карзанава, намеснік дырэктара Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі:** — Наконт рубрыкі «Настаўніцкая на праслушцы». Мне падаецца, што вы толькі напачатку будзеце мець жадаючых быць «падслуханымі», а потым гэта рубрыка затухне. Яна вельмі вузкая, па-першае, а па-другое, усе настаўнікі маюць аднолькавыя праблемы.

**С. Д.:** — Трэба ж ведаць спецыфіку рубрыкацыі часопіса. Калі «Верасок» можа існаваць дзесяцігоддзямі, «Псі-факторыя», магчыма, таксама, то ёсць яшчэ — і павінны быць — праекты, наўмысна ствараныя як часовыя — на год і не больш. Яны самым натуральным чынам саступаюць месца новым ідэям і праектам, як толькі вычэрпваюць сябе. Мы ж не можам зрабіць так, каб усе старонкі былі заняты рубрыкамі, якім існаваць дзесяцігоддзямі. Гэта, па меншай меры, непрафесійна, бо не скіравана ні на развіццё, ні на варыятыўнасць.

**В. Л.:** — Найбольш верагодны нават такі варыянт: год гэта рубрыка праіснуе, на пяць гадоў возьме адпачынак, а пасля зноў «запусціцца». Бо з'явяцца новыя праблемы, і зноў узнікнуць тэмы для гарачых абмеркаванняў. Актуальнасць старых рубрык час ад часу прачынаецца нанова: яны нараджаюцца на фундаменце папярэдняй ідэі, але ў новым фармаце.

**Ларыса Астапенка, загадчыца сектара дзіцячай бібліятэкі № 15:** — Яшчэ такая парада: у рубрыцы «Гатавальня» змяшчайце, калі ласка, каляровыя фота страў.

**В. Л.:** — У нас гэта рубрыка прадугледжана як маляваная — ідэя юнай мастачкі.

**С. Д.:** — Якаснае фота ежы — гэта ці не самая дарагая рэч ва ўсім фотабізнесе, а аматарскі здымак у паліграфіі глядзіцца дрэнна. Але мы згодны ісці на пэўныя кампрамісы, чаргаваць і сумяшчаць фота і малюнкі. Справа ў тым, што стравы ў «Гатавальні» як рубрыцы не проста кулінарнай, а яшчэ лінгвістычнай і літаратурнай плануюцца часам нават вельмі спецыфічныя. Размова можа ісці пра тое, што на першы погляд невядома як і выглядае. Або выглядае не надта маляўніча. Хто ведае, што такое сліжыкі, рэцэпт якіх прадстаўлены ў «пілоце»? Пошук у інтэрнэце нічога не дае. Мастак таксама можа ўявіць не так, як трэба. А гэта проста гузікі з цеста, цвёрдыя, аблітыя мёдам. Я не думаю, што іх фота можа быць прывабным, а вось малюнак — іншая рэч.

**Л. Б.:** — Чые творы вы плануеце друкаваць на «Літаратурных старонках»?

**В. Л.:** — Тут падыход будзе не ўзроставы і не іміджавы, а самы просты: каб было цікава. Проза і паэзія для падлеткаў павінна быць прадстаўлена так, каб яе проста хацелася чытаць. Аўтары могуць быць і сталыя, і тыя, чые імёны для літаратурнага кола ўжо вядомыя, але самі яны яшчэ даволі маладыя, як скажам, Алёна Беланожка. У «пілоце» ж з апавяданнямі выступае Міхась Пазнякоў.




**Падрыхтавала**
**Святлана ДЗЯНІСАВА**

# Аляксандр Марчанка: «Не ўсе драматургі гатовыя да дыялогу»

**IV Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ» — 2014, які пройдзе ў Мінску з 27 верасня па 22 кастрычніка, адкрыецца дадатковай off-праграмай BelarusOpen. У межах праекта будзе прадстаўлена больш як дваццаць пастановак. Пра тое, якія спектаклі ўбачаць гледачы ў беларускім блоку форуму, а таксама пра новыя творчыя праекты Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі чытачам «ЛіМа» распавядае акцёр, рэжысёр і кіраўнік Цэнтра беларускай драматургіі Аляксандр Марчанка.**



— Наш тэатр возьме ўдзел у Міжнародным форуме тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ» у другі раз. Летась беларускую праграму складалі толькі чатыры прэм'еры паводле сучасных айчынных аўтараў, у 2014-м — ужо дванаццаць спектакляў, у тым ліку і вядомыя гледачу п'есы «Сумны хакеіст» Паўла Пражко, «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» Дзмітрыя Багаслаўскага, «PATRIS» Сяргея Анцалевіча, Дзмітрыя Багаслаўскага і Віктара Красоўскага. Адметна, што на сёлетнім фэсце ўпершыню будуць праводзіцца сцэнічныя чытанні сучаснай беларускай драматургіі, а таксама спектаклі студэнтаў-рэжысёраў Цэнтра сучаснай рэжысуры пры Акадэміі мастацтваў. Напрыклад, гледачы змогуць пазнаёміцца з п'есай Дзмітрыя Багаслаўскага «Калі заўтра няма...», якая атрымала Гран-пры на VI Міжнародным фестывалі тэатральных школ «АПАРТ» у Санкт-Пецярбургу.

**— Кожны спектакль, прадстаўлены ў беларускай праграме форуму «ТЭАРТ», па-свойму ўнікальны. І ўсё ж які з іх выклікае найбольшую цікавасць?**

— Пастаноўкі фэсту розныя і па жанры, і па светапоглядзе. Да кожнага матэрыялу ў мяне пазітыўнае стаўленне. Напрыклад, магу вылучыць спектакль «PATRIS», створаны ў жанры дакументальнага тэатра. Ён цікавы тым, што аўтары аднаўляюць атмасферу, знаёмую жыхарам Мінска, выводзяць на тэатральную сцэну цэлую галерэю вобразаў сучаснікаў. Цікавы і спектакль па матэрыялах Альгерда Бахарэвіча «Шабаны». Акрамя таго, у межах сцэнічных чытанняў гледачы пазнаёмяцца з п'есай, створанай падчас штогадовай Лабараторыі беларускай драматургіі, — «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова. Характэрна, што спектакль сёння ідзе ў многіх замежных тэатрах і выклікае вялікую цікавасць публікі. Латвійскі спектакль Даўгаўпілскага тэатра (рэжысёр — Георгій Суркоў) прэтэндуе адразу на некалькі намінацый латвійскай нацыянальнай прэміі «SPĒLMAŅU Nakts 2014».

Асаблівую ўвагу ў праграме форуму прыцягвае п'еса «Эшалон№0» (ці «Вагон») Віктара Красоўскага і Ірыны Гарэц (Украіна). Нягледзячы на тое, што канчатковы варыянт сцэнарыя быў напісаны некалькі месяцаў таму, пастаноўка ўжо трапіла ў лонг-ліст XII Міжнароднага літаратурнага Валошынскага конкурсу (Расія). Сцэнічнае чытанне п'есы пройдзе ў антуражы Мемарыяльнага музея-майстэрні З. Азгура. У спектаклі «Эшалон№0» (рэжысёр — Віктар Красоўскі) уздымаецца тэма вайны як з'явы, а мараль закладзена ў кароткім дыялогу двух салдатаў: «Ты з якой вайны?» — «А якая розніца?». Гэта якраз той выпадак, калі сучасныя аўтары закладваюць у спектаклі ўніверсальны пасыл, які, напрыклад, ёсць у п'есе Андрэя Саўчанкі «Бі-Лінгвы, ці Кураня з сэрцам». Выкарыстоўваючы прынцып дакументальнага тэатра, аўтар на аснове маналогаў суайчыннікаў стварае зборны вобраз чалавека, які жыве ў двухмоўі, як вынік, выходзіць на абагульненне пра дваістасць і амбівалентнасць чалавечага быцця.

Цікавы і спектакль «Сумны хакеіст» па п'есе Паўла Пражко. Візуальна прыгожая пастаноўка «Дзяды» па Адаму Міцкевічу (рэжысёр Рамуне Кудзманайтэ (Літва)). На форуме будуць прадстаўлены адразу два харэаграфічныя спектаклі: «Адзін у квадраце» Вольгі Лабоўкінай і «Секунда» Вольгі Скварцовай. На мой погляд, заўсёды сучасныя і актуальныя працы беларускага харэографа Вольгі Скварцовай могуць скласці канкурэнцыю любому замежнаму калектыву.

У межах фестывалю гледачы ўбачаць праекты Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры пры Беларускай акадэміі мастацтваў: спектакль «Па імені Гаспадар» Філіпа Лёле (рэжысёр Наталля Леванава) і галерэю аб'ектаў пад адкрытым небам «Стрытвокер» сумесна з эксперыментальным тэатрам «KUD LJUD» (Славенія). Завершыцца форум прэм'ерай Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы спектаклем «Бацька» паводле п'есы Дзмітрыя Багаслаўскага «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» у пастаноўцы Кацярыны Аверкавай.

**— Цэнтр беларускай драматургіі шмат працуе на папулярызацыю айчыннай драматургіі. Якіх навінак можна чакаць бліжэйшым часам?**

— У новым сезоне гледачы РТБД пазнаёмяцца адразу з некалькімі п'есамі сучасных беларускіх аўтараў. Нядаўна мы пачалі рэпетыраваць спектакль «Мабыць» у жанры дакументальнага тэатра. П'еса створана на аснове інтэрв'ю, якое акцёры праводзілі з людзьмі розных прафесій і сацыяльных слаёў. Дзмітрый Багаслаўскі зрабіў літаратурную апрацоўку матэрыялу. Рабочай гіпотэзай праекта было пацвердзіць або абвергнуць пэўныя стэрэатыпы і міфы паняцця «беларус». Гэта калектыўная праца, дзе акцёр выступае яшчэ і ў якасці журналіста, які бярэ інтэрв'ю ў прататыпа будучага персанажа. Хутка пачнуцца рэпетыцыі п'есы Мікалая Рудкоўскага «Вялікае перасяленне вырадкаў». Пастаноўка касмапалітычная, нацыянальныя пытанні ўздымаюцца праз прызму глабалізацыі. Але галоўнае — гумар, хоць і даволі спецыфічны.

Завершыцца тэатральны сезон прэм'ерай «Каханне людзей» паводле п'есы Дзмітрыя Багаслаўскага ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка Тэатра беларускай драматургіі Аляксандра Гарцуева.

**— Чаму сёння не кожны рэжысёр праяўляе жаданне працаваць з матэрыяламі сучасных драматургаў? Чаго не хапае айчыннай драматургіі?**

— Справа ў тым, што сапраўды чагосьці не хапае кожнай асобнай п'есе маладых драматургаў. Недзе мы не можам знайсці арыстоцелеўскую канструкцыю, недзе знаходзім толькі яе частку і г. д. Мне здаецца, істотны тут аспект творчых узаемаадносін рэжысёра і драматурга: яшчэ не ўсе гатовыя да адкрытага дыялогу і супрацоўніцтва. Ёсць і іншая пазіцыя, калі ў п'есе рэжысёр не бачыць пэўных аспектаў і па гэтай прычыне яму нецікава працаваць з матэрыялам — ён чакае новага. Тым не менш гэтыя адносіны не ўзаемавыключальныя і не з'яўляюцца перашкодай для развіцця сучаснай беларускай драматургіі. Ніхто не адмяняў любоў да твораў, напрыклад, Чэхава, які каму-небудзь больш зразумелы і патрэбны. Альбо прыхільнасць да вялікіх маштабных тэатральных праектаў, дзе тэатр становіцца музеем — гэта таксама знаходзіць свайго гледача. РТБД заўсёды працаваў з маладымі аўтарамі, і сёння беларуская драматургія адлюстроўвае жыццё, пачуцці і рэаліі сучасных людзей. Характэрна, што пытанні, якія закранаюцца ў пастаноўках, гучаць без агрэсіі і раздражнення — а з пазіцыі «разабрацца». Неабходна стварыць умовы для таго, каб маладыя аўтары (і ўсе мы разам з імі) мелі магчымасць расці і атрымліваць інфармацыю пра сучасныя тэатральныя працэсы звонку: на творчых лабараторыях, майстар-класах, фестывалях.

**Вераніка РУСАКОВІЧ**





*Фота з архіва РТБД*

*Спектакль «Гэта ўсё яна» (рэжысёр Андрэй Іваноў).*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2320.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.09.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3722.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686